

Юрку БАЕНУ 60. Віншуем! ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3176) Год LXII Беласток, 26 сакавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Віншуем прафесара Лявона!

**Аднаму з самых інтрыгуючых сучасных мастакоў, якога працы выстаўляліся ў самых прэстыжных галерэях свету, споўнілася 60 гадоў. Лявон Тарасэвіч нарадзіўся ў 1957 годзе ў Валілах, што побач Гарадка. Поўны творчага запалу, адкрывае для сябе ўсё новыя і новыя аблічча так старой і, здавалася б, ужо добра спазнанай дысцыпліны, якой з'яўляецца жывапіс. Падкрэсліваў сваё беларускае паходжанне і прымаў актыўны ўдзел у жыцці беларускай меншасці ў Польшчы. Адзін з суарганізатараў штогадовага беларускага фестывалю «Басовішча». Супрацоўнічаў з „Нівай”, адзін з заснавальнікаў „Гарадоцкіх навінаў”. Прафесар Лявон Тарасэвіч атрымаў пашпарт „Палітыкі” (2000), прэмію імя Яна Цыбіса (2000) і ўзнагароду Фонду Зофіі і Ежы Навасельскіх. У 2005 годзе ён быў узнагароджаны Міністрам культуры Сярэбраным медалём заслужанага для культуры Gloria Artis. У 2006 атрымаў гран-пры Фонду культуры. У 2011 годзе ён стаў кавалерам Ордэна адраджэння Польшчы. Пры гэтым усім менавіта схацелася і хапіла энергіі каб з 2014 года заняцца спадчынай Сакрата Яновіча і заснаваць Фонд Villa Sokrates.**




Прафесар Лявон Тарасэвіч з Маргарытай Дмітрук, мастачкай родам з Бельска-Падляшскага ў час яе выстаўкі ў Галерэі Крынкі

**Уршуля Шубзда: — Падрыхтаваныя, каб адказаць на кожнае пытанне?**

Лявон Тарасэвіч: — Давай.

**— Пры Вашым дні нараджэння запытаю, што думаеце наконт сувязі крыві, значыць паходжання, з гэтым чым займаецеся? Ці ўвогуле такая залежнасць існуе? Бо напэўна ў нейкай ступені месца, людзі неяк фарміруюць чалавека.**

— Праца мастака ёсць люстрам яго жыцця. Усё, што адбылося, усё, што мастак перажыў пазней, змяшчаецца ў яго працах, калі ён з'яўляецца мастаком. Калі чалавек гляне на працы нейкага артыста, тады вельмі лёгка пазнаць яго жыццё.

**— Цяпер больш часу праводзіце ў Варшаве. Як Вас успрымаюць там, а як на Падляшшы?**

— Па-першае, для мяне гэтага Падляшша няма. Для мяне наша Падляшша скончылася на Люблінскай уніі, калі нас проста падзялілі. І гэтае Падляшша нам застаецца па другой старане Буга, а мы жывем у якімсьці такім дзіўным творы, які ніколі не быў сабой: частка Падляшша, частка Сувальскай зямлі, яцвяжскай, частка Мазовіі з Ломжай за рэчкай, якая зусім чужая. Таму Жыгімонт Аўгуст жыў у Кнышыне, а не ў большай Ломжы, бо не меў з ёй духоўнай супольнасці.

**— А Вы адчуваеце сувязь з сённяшняю Беларуссю?**

— Знаеш, Табе скажу, што я перш за ўсё не адчуваю сённяшняй Беларусі, якую штучна ад нас аддзяляе мяжа. Мы маем вельмі добры кантакт, калі ідзе пра людзей, якія займаюцца музыкай і мастацтвам. І так напраўдзе, якая розніца, што Аляксей Карпюк жыў у Гародні, а ў часы дзяцінства гуляў з маім бацькам. І гэтая мяжа, якая аддзяляе Гародню і нас, так напраўдзе не існуе. Гэта адміністрацыйныя межы, якія выдумваюць уладары дзяржавы, але калі ідзе пра культуру, то яна мае свае натуральныя граніцы, вядома, не назаўсёды. Яшчэ да Другой сусветнай вайны на захадзе Падляшша людзі гаварылі па-беларуску, сёння ўжо не гавораць. Тады, перад вайной, усе кругом Вільні гаварылі па-беларуску, цяпер не гавораць. Таксама калі ідзе пра нямецкую мову, якая была ў Прусіі, якая была тут на заходніх частках Польшчы, у Познаньскім. І людзі з Берліна ездзілі туды адпачываць. Гэта ўсё змянілася, не стаіць у месцы. І тая сённяшняя рэчаіснасць, якая адбываецца, яна такая будзе толькі тады, калі будзе створана культура. А гэта ці хутка перастаюць граніцы ў тую старану ці другую, гэта палітычная справа, якой часта доўга-доўга ніхто не заўважае.

**— А Вы самі ў Варшаве часта карыстаецеся беларускай мовай?**

— Мова гэта медыум, дзякуючы якому чалавек дамаўляецца з другім чалавекам. Калі ведаю, што другая асоба зразумее, тады гавару па-беларуску. Ну, хіба што з сабакам з Валіл, калі ёсць у Варшаве, тады гавару па-беларуску.

**— Ну, пытаюся таму, што Вы можаце дапамагчы пераломваць комплексы.**

— Але гэта найлепш рабіць у месцы, у якім ты жывеш. Калі людзі прыязджаюць да нас, да «Villi Sokrates» у Крынкі, сабе гэта пераломваюць. Напрыклад, я ніколі не чуў, каб Мірэк Балка паскардзіўся, што чагось не разумее, хоча каб яму штосьці пераклаcці. Ён ёсць прысутны і мае настолькі культуры, што нават калі чагосьці не зразумее, то пазней яму дакажам. І хоча сюды прыязджаць. Усё тут на беларускай мове і яму гэта не перашкаджае, а нашым часта так.

**— А святкуеце сёння дзень нараджэння па падляшскай традыцыі?**

— Я не знаю чагосьці такога, каб было характэрнае для Падляшша і гэта адрознівала яго ад іншых месцаў свету, дзе б людзі адзначалі дзень нараджэння.

**— Ну, мела я на думцы святкаванні, напрыклад з «духам пушчы».**

— Гэта толькі медыум, якім карыстаюцца людзі і калі якога алкаголю патрабуюць. Я стаю, цяпер бачу мур — апошні, які застаўся ад варшаўскага гета, перада мною Павонзкі — найстарэйшы варшаўскі могільнік, а будынак, з якога я выйшаў, будавалі пры цару Аляксандру. Ну, але абуральным было б, каб на гэтым асфальце адчыніць «дух пушчы». Трэба яго шанаваць.

**— Чаго Вам жадаць?**

— Каб цешыцца кожным наступным днём.

**— Таго Вам жадаем ад імя ўсёй рэдакцыі! Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



## ДЗЕНЬ ВОЛІ!

### Зварот да беларускага народу

Шаноўныя суродзічы, дарагія сябры беларусы! Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам! У гэты дзень, 25 сакавіка 1918 г., пасьля доўгай няволі, калі вонкавы сьвет забыўся пра нашае існаваньне, народ наш заявіў, што хоча жыць у сваёй незалежнай дзяржаве. Давялося чакаць яшчэ больш як сем дзесяцігодзьдзяў, пакуль Беларусь сталася ўсімі прызнанай дзяржавай, але калі б не было ў сакавіку 1918 году людзей, якія моцна верылі ў сваё права быць вольнымі на сваёй зямлі, — не здабылі б мы ў жнўні 1991-га сваёй дзяржавы. Дарагія сябры, праз год, 25 сакавіка 2018 г., мы адзначым 100-гадовы юбілей абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У нармальнай дэмакратычнай краіне, дзяржава рыхтавалася б да вялікага сьвята — але цяпер, на жаль, настрой не сьвяточны. У гэтым 2017 годзе наш край ізноў апынуўся пад пагрозай быць зьняволеным тым самым захопнікам. Разьвіцьцё апошнім часам падзеяў вельмі трывожнае. Перад мілітарызацыяй нашай зямлі расейскімі базамі і манэўрамі з удзелам тысячаў расейскіх вайскоўцаў, Беларусь успрымаецца Захадам верным саюзьнікам Масквы, і падзел паміж двума сьветамі пакідае нас штораз часьцей на баку варожай нам імпэрыі. У выпадку вайны наш народ ізноў зробіцца першай яе ахвярай. Зьвяртаюся сёньня да беларускага народу, у Беларусі і ўва ўсім сьвеце. Гэтак, як нашая геraічная моладзь, якая нядаўна бараніла Курапаты, скажыце ўсяму сьвету і прамаскоўскім хаўрусьнікам у Менску, што беларускі народ не зьбіраецца ізноў паміраць за чужыя імпэрыі, што край наш выбраў нэўтралітэт, калі ён меў магчымасьць выказаць сваю волю, і што ён быў уцягнуты ў варожую нам Эўразійскую зону, нягледзячы на гэтае жаданьне, выказанае ў Канстытуцыі. У гэты вельмі неспакойны час, калі кожная дзяржава мае свае ўласныя клопаты і ня мае часу прыслухоўвацца да чужых праблемаў, цяжка пераканаць тых, хто гэтага ня ведае, што мілітарныя базы на сваёй зямлі мы ўспрымаем — як пагрозу незалежнасьці нашай дзяржавы. Аднак пра гэта трэба гаварыць, трэба пісаць усім нам як індывідуальна, гэтак і калектыўна, ад імя беларускіх арганізацыяў, звароты да ўрадаў краінаў, дзе мы пражываем. Трэба рабіць усё магчымае, каб нас бачылі, каб нас чулі, каб ведалі, што народ наш ізноў пад пагрозай з боку суседа, злачынную небясьпеку якога сьвет нарэшце зразумеў. Трэба, каб лінія абароны Эўропы праходзіла ня ўздоўж заходняй мяжы Беларусі з Эўразьвязам, а ўздоўж мяжы ўсходняй — з Расеяй. Дарагія мае суродзічы на Бацькаўшчыне, трэба, каб вы таксама заявілі сьвету, што вы ізноў быць калёніяй Масквы не зьбіраецеся. З сумам канстатую, што трэба быць героем, каб у Беларусі змагацца за волю нашай зямлі. З глыбіні сэрца віншую тых, хто гэта штодзённа робіць. Сьвет пра вашае змаганьне ведае. Воля і Незалежнасьць Беларусі, у першую чаргу — у вашых руках! Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.
Сакавік, 2017 г.



9 770546 196000



# Беларуская чаша

Гародня, зрэшты як і ўся Беларусь, даўно не бачыла такіх масавых вулічных пратэстаў як зараз. Славуты дэкрэт № 3 стаў не толькі сімвалам абсурду і поўнага неразумення ўладай як жывуць, ці дакладней сказаць выжываюць, беларусы, але і апошняй кропляй цярпення, якая ўжо перапоўніла чашу, праўда, толькі з аднаго боку. Беларуская чаша цярпення мае няроўныя краі (такое яе візуальнае ўяўленне). Гэта яе ўнікальнасць і адрозненне ад іншых — то з аднаго боку перапоўніцца, то з другога. А так каб праз усе краі разам, то яшчэ не.

Улада гэта зразумела першай і доўгія гады паспяхова выкарыстоўвала няроўнасці краёў беларускай чашы цярпення. То падымуць угору той бок, з якога ўжо паперла, то аддзьмухаюць сілай ад нізкага краю віно адчаю. І доўгі час такія маніпуляцыі ў іх паспяхова атрымліваліся.

Ды і на гэты раз нічога новага ўлада не прыдумала і прыдумваць не хацела. А навошта, калі ёсць даўно апрабаваныя спосабы?

Напачатку хацелі прыпадняць той нізкі бок, з якога палілося. Замарозілі дзеянне самага вядомага ў свеце дэкрэта ажно да канца года. Гэта ж трэба, замарозіць дзеянне ўжо дзеючага дэкрэта нібыта дзеля дапрацоўкі і больш дакладнага вывучэння. Маўляў, улада думае пра ўсіх, і пра дармаедаў таксама, хоць і было заяўлена, што дармаед усё ж не зусім сацыяльна правільная з'ява.

Зрэшты, такія заявы не новыя. Ад гэтай улады мы чулі, што і прадпрымальнік нешта чужароднае, падобнае на жуліка, якое паразітуе на здаровым целе нашай цуда-эканомікі. Ну вось дзякуючы такой палітыцы паспяховыя прадпрымальнікі хутка ператварыліся ў нібыта „дармаедаў”, якія па старой прадпрымальніцкай памяці, каб не адвыклі, павінны плаціць падаткі. Але не атрымалася. У „дармаедаў”, нечакана для ўлады, аказалася, што ёсць гонар і чалавечая годнасць.

У такой сітуацыі ў ход пайшоў даўно правераны другі варыянт, які называецца сілавы метад. Перапоўненую чашу вырашылі накрыць цяжкай крышкай і з усяе сілы душыць ёй уніз. Балазе, для гэтага ёсць усе неабходныя прыстасаванні і добра падрыхтаваныя выканаўцы. І панеслася.

Сотні затрыманых па ўсёй тэрыторыі краіны. Пратаколы, суды, штрафы, арышты, прыходы спецслужбоўцаў на працу да тых, у каго яна пакуль што ёсць, каб задэклараваць, што яе можа і не быць. Ну а тых, у каго ўжо няма ні працы, ні заробкаў, таксама ёсць чым палапохаць — звычайным страхам. Метадаў і сродкаў сілавога ціску на незадаволеных жыццём дастаткова, хоць выглядае гэта не толькі абсурдна, але нават смешна. Як бы тыя людзі, якія маюць працу і някепскі заробак, праследуюць і палохаюць тых, хто гэтага заробку не мае. І праследуюць для таго, каб яны далі ім грошы і ні ў якім разе не выказвалі свайго незадавальнення.

Зрэшты, падобны сцэнарый прагназаваўся вельмі лёгка. Падобныя рэжымы як у Беларусі не любяць абцяжарваць сябе нейкімі новымі вынаходніцтвамі. Заўсёды ёсць стары правераны метад. Таму ад улады ніхто і не чакаў нічога іншага. Яна, улада, нават не разумее прычын такога масавага абурэння. Людзі, якія так доўга знаходзяцца пры ўладзе, натуральна, не могуць ведаць пра праблемы грамадства. Менавіта дзеля гэтага ў дэмакратычных краінах і ўстанаўліваюцца максімальныя тэрміны, пасля якіх і балатавацца нельга. Чалавек, які дзесяцігоддзямі не ходзіць па вуліцах, не наведвае кінатэатраў, не завітвае ў госці да знаёмых, не заходзіць у краму, каб купіць хлеб, малако і гарэлку, не можа ўявіць, што на ўсе гэтыя дробныя радасці трэба цяжка працаваць. Таму і бачым мы ў многіх высокапастаўленых чыноўнікаў шчырае здзіўленне, што беларусы абурыліся з-за нейкай дробязі. Падумаеш, нейкіх пару няшчасных сотняў долараў з рыла! Што гэта за грошы такія, што з-за іх такі шухер паднялі.

Памятаю, як яны не маглі зразумець, чаму абурыліся ўкраінцы, як у Януковіча знайшлі залаты батон. Маўляў, ну не падабаецца вам батон, будзем рабіць са свайго золата пончыкі ці пліты ў выглядзе сала. Ну што вы да батона прычапіліся!? Прадукт як прадукт!

І пра чашу цярпення яны таксама нічога не разумеюць. Прынамсі пра тое, што як душыць на яе крышкай уніз, то яна можа трэснуць з усіх бакоў.

Віктар САЗОНАЎ



# Дзіравая дзяржава

Славуты дэкрэт № 3 Аляксандра Лукашэнкі — як дзірка на расійскай дарозе. У Расіі дарожную ўхабіну вызначае норма. Калі яна не глыбейшая за 5 см, не даўжэйшая за 60 см і не шырэйшая за 15 см, яна не можа разглядацца як дзяржаўная... І як такая не кваліфікуецца як дзіра, не падлягае рамонту. Яе не ўключаюць у справаздачы дарожнай службы, і дзяржаўныя службовыя асобы, адказныя за дзяржаўныя дарогі, абмінаюць гэты праблемны факт шырокім кругом. Можа таму «расійская дарога» мае так шмат дзіўных паваротаў? Гледзячы на іх заблытанасць, ужо невядома адкуль і куды ідзе Расія. У любым выпадку, дарога гэта дарога, нават калі вяла ў нікуды. Дарэчы, гэтая «расійская» не менш паручастая, чым «беларуская» або ў апошні час «польская».

У Расіі кожная выбоіна з параметрамі меншымі чым згаданыя раней, хоць яна знаходзіцца на дзяржаўнай дарозе, да дзяржавы не належыць. Безапеляцыйна ўстанаўле гэта «норма дзіры». Дзірка недзяржаўная, але не значыць прыватызаваная. Бо ніхто да яе не прызнаецца. Такім чынам пазанарматыўная выбоіна на расійскіх дарогах набыла значэнне дзіркі з грамадскім статусам. Звяртае на сябе ўвагу, але яна быццам бы абстрактная. Нават калі хтосьці з-за яе будзе мець шкоду, але ж не ўсе адразу ды ў той жа час. Гэта нічога, што ўсе карыстальнікі дарог могуць быць патэнцыйнымі ахвярамі такіх выбоін. Але не ўсе адразу! Не ўсё грамадства, толькі фізічныя асобы. І прытым толькі ўдзельнікі дарожнага руху. У рэшце рэшт, з пункту гледжання мноства «грамадства», карыстальнікі або патэнцыйныя карыстальнікі дарог толькі падмноства. Адно з многіх падмностваў усяго мноства. Прыкладам такога іншага падмноства могуць быць пешыя турысты. Ці аматары параплану. Хоць пазанарматыўных дзірак у дарогах Расіі прыбывае, што становіцца грамадскай праблемай, але затое меншае тых ухабін, што адпавядаюць умовам для рамонту. Расійская дзяржава ў гэтых адносінах дакладна выконвае свае абавязкі наконт грамадства і такія дзіркі латае. Таму грамадства не павінна бурчэць на дзяржаву, а хутчэй крытычна зірнуць на сябе. Хай яно само латае свае дзіры, так як дзяржава — дзяржаўныя. Гэты прыклад паказвае, што грамадства і дзяржава ў Расіі гэта два аўтаномныя і незалежныя арганізмы. Дзяржава сабе, а грамадства... як сабе хоча! Аб рабстве тут няма гаворкі. Такім чынам свабоды, якіх патрабуе грамадства, дзяржава задавальняе. І наваt гарантуе. У Расіі дзяржава, у рэшце рэшт, служыць грамадству, хаця хутчэй больш служыць цяперашняй уладзе. Калі грамадства паважае нормы, устаноўленыя дзяржавай, паважае і ўладу. Любыя дзеянні, перавышаючыя гэтыя стандарты, лагічна — антыграмадскія і антыдзяржаўныя. Латанне дарожных дзірак не адпавядаючых норме было б такім чынам так антыграмадскім, як і антыдзяржаўным. Улада клапоціцца пра свае ўхабіны.

Вяртаючыся да прэзідэнцкага дэкрэта № 3 — мае ён ранг дзяржаўнага закона. Але на вуліцы многіх гарадоў Беларусі выйшлі натоўпы яго гарачых праціўнікаў. Супраць намеру ўлады гэты дзяржаўны акт з парадкавым нумарам 3 зварухнуў грамадства. Гэта не дзіўна, таму што калі ён падзяляе грамадства на нахлебнікаў і ненахлебнікаў, дармаедаў і недармаедаў, мае яно права запатрабаваць адказ на абсяг функцыянавання дзяржавы і ўлады, якая выступае ад імя дзяржавы. Справа ў вызначэннях. Ці дзяржава гэта ўлада? Ці з'яўляецца Аляксандр Лукашэнка дзяржавай? Межы паміж дзяржавай і грамадствам выразныя і ўстаноўленыя палітычнай традыцыяй і згодай большасці. Прынамсі, у дэмакратычных краінах. У аўтарытарных краінах, такіх як Расія, Беларусь і цяперашняя Польшча, пра гэтыя межы трэба настойліва пытаца. І патрабаваць іх шанавання. Улада, як у выпадку трох згаданых славянскіх краін, імкнецца да ўзурпацыі дзяржавы. Але дзяржава гэта не Лукашэнка, не Пуцін і не Качынскі. Яны з'яўляюцца проста злымі эманацыямі дзяржавы, якая па вызначэнні з'яўляецца ўстановай у падпарадкаванні ўсяму грамадству. А калі яна перавышае сваё вызначэнне дзеля выгады ці інтарэсаў актуальнай улады, становіцца дзіравай.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Конь для народа — сакольская парода

У сакавіку заўсёды з цікавасцю прыглядаюся адабраным членамі журы намінантам да ўзнагароды «Падляшская марка года», фінансаванай і прамаванай Маршалкоўскай управай у Беластоку. Паводле ўладароў ваяводства ўзнагароджаныя прадукты маюць паказаць тое, што самае лепшае, цікавае, перспектыўнае і прытым наша падляшскае. Да трынаццатага выпуску конкурсу было прынятых сто семдзесят дзевяць прадуктаў, з якіх да фінальнай часткі была вылучана толькі дваццаць адна прапанова ў сямі катэгорыях: харчовы прадукт, ужытковы прадукт, інвестыцыя, адкрыццё, падзея, культура, грамадства. Канчатковыя вынікі галасавання журы і інтэрнаўтаў будуць вядомы дваццаць сёмага красавіка. Зразумела, што ў такой сітуацыі журы мела нялёгкую загвздку ў састаўленні шорт-ліста фіналістаў. У яе рашэннях аж надта відавочная карэктнасць да патрэбы выяўлення ў выніках вылучэння ўсіх рэгіёнаў ваяводства. Ну і відавочная даніна сур'ёзнаму бізнесу Падляшша, які ўжо сам даўно выпрамаваўся ў Еўропе і свеце без спецыяльнай зарукі мясцовых улад. Аднак добра, што такое прызнанне ў рэгіянальнай палітыцы ім самім таксама неабыякавае. У канцы гэта яны даюць нам рэальныя месцы працы і зарплату, а не маняць, што мы тут усе зажывем, дзякуючы чыстаму паветру і лясам, да якіх уваход забаронены. Аднак маё здзіўленне эквілібрыстыкай журы выклікаў састаў намінантаў у катэгорыі **адкрыццё**: **Przystosowanie maszyny do szycia dla osób z niepełnosprawnością kończyn dolnych; Koń zimnokrwisty w typie sokólskim; MATIA — sztuczne oko dla osób niewidomych**.

Калі ў катэгорыі «адкрыццё» побач сябе стаяць вынаходніцтвы неабходныя траўмаваным інвалідністю людзям і ўжо гістарычная, прыгожая сакольская парода коней, то такое супадзенне можна растлумачыць толькі стомленасцю камісіі. Усе іншыя тлумачэнні будуць успрымацца як наіўныя або як чорны гумар журы. Адкрыццё і ўзнагароджанне халаднакроўнага каня сакольскай пароды, якім здаўна славіцца сакольска-гарадзенская прастора па ўсім свеце, павінна мець месца не ў гэтай катэгорыі. Хіба, што, глядзеўшы на прадукты іншых там намінантаў, журы палічыла адкрыццём магчымасць вядзення іпатэрапіі на гэтых жа канях. На жаль, невядомае пакуль мне асэнсаванне журы такога рашэння.

Дзеля поўнай яснасці: я падпісваюся не толькі абедзвюма рукамі, але і нагамі не толькі за намінаванне, але і перамогу сакольскага каня ў якасці Падляшскай маркі года. Напэўна аддам на яго голас у інтэрнэтным конкурсе. Конь быў найбольш запатрабаванай і шанаванай жывёлай у ментальнасці беларускіх сялян. Не дзіўна, што і ў нашым нацыянальным гербе Пагоня апынуўся менавіта вершнік-рыцар на кані. Ну і ў гербе Падляшскага ваяводства і самога Беластока ад Пагоні нікуды не дзенешся.

А цяпер некалькі слоў аб гісторыі самой сакольскай пароды. Пачаткі сарганізаванай конегадоўлі на нашай тэрыторыі сягаюць паловы XIX стагоддзя. Узнікла яна па ініцыятыве конскай секцыі Віленскага зямельнага таварыства. Тады менавіта на гаспадарчыя патрэбы сялян пачалі крыжаваць мясцовых кабыл з прывезенымі жарабцамі з Заходняй Еўропы, асабліва з Брэтані і Ардэнаў. Скрыжаваныя такім чынам коні здабылі прызнанне, а цэнтрамі іх гадоўлі сталі ваколіцы Гародні, Індуры, Саколкі і Дубровы. Моцная і трывалая парода, прыстасаваная да цяжкіх кліматычных умоў мясцовага ландшафту і простага харчавання, знайшла прызнанне не толькі ў сялян, але стала запатрабаванай і ў гарадскім транспарце, рамонтных і артылерыйскіх падраздзяленнях расейскай арміі. Суседняя Прусія з ахвотай купляла коней такой пароды. Такія эканамічныя імпульсы спрыялі конегадоўлі. З 1857 года ў Гародні расейскімі ўладамі арганізаваліся пастаянныя конскія выстаўкі і кірмашы. Слава коней сакольскай пароды пайшла па ўсёй імперыі і па-за яе межы.

Дзякуй Богу і аддансці конегадоўцаў з Сакольшчыны і Дуброўшчыны, нягледзячы на рэвалюцыі і войны, мы можам надалей любавацца жывой сакольскай пародай, якая надалей жыццярадасна ўпрыгожвае краявіды роднай зямлі.

Яўген ВАПА

# Я ўнутры аптыміст...

**Юрыю Баену — 60! Якраз столькі гадоў таму Бельская зямля атрымала будучага паэта, сябру Літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Яго радкі з'явіліся дакладна ў сямі зборніках: *Лісты блакітных успамінаў* (1991), *Вечар над светам* (1998), *Крык дзікай ружы* (2003), *Пад нашым небам* (2007), *Бераг надзеі* (2009), *Шкатулка святла* (2013) ды апошні *Вочы зялёнай душы* (2016) — усе выдадзеныя літаб'яднаннем «Белавежа». Юбілейныя абставіны сталі добрай нагодай для сустрэчы з паэтам і ягонай творчасцю. Узрост пазітыўна паўплывае на яго прагу тварэння і дзеяння — паэт родам з Мокрага па-ранейшаму актыўны ды не толькі на паэтычнай ніве.**



Прыгоду з паэзіяй Юрый Баена пачаў яшчэ ў пачатковай школе. Паводле паэта сур'ёзным дэбютам можна лічыць яго верш «Лета», які быў надрукаваны ў «Зорцы» ў рубрыцы «Вучнёўская творчасць». Быў тады выпускніком шостага класа пачатковай школы ў Дубяжыне.

— Гэты верш фактычна быў надрукаваны летам. Помню, што калі ён з'явіўся на старонках «Зоркі», я быў проста ашаломлены гэтай падзеяй. І гэта быў такі моцны штуршок да таго, каб далей пісаць свае радкі. Пазней, калі я быў ужо вучнем Бельскага бельліцэя, я дэбютаваў на літаратурнай старонцы «Белавежы» ў «Ніве». У маёй творчасці моцна дапамагаў мне тагачасны галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі. Бывала, што дадзены нумар літаратурнай старонкі быў практычна падрыхтаваны, меў ужо ісці да друку, але аказвалася што спадар Георгій зрабіў у ім месца яшчэ і на мае творы. Мае вершы друкаваліся таксама і ў альманахах аб'яднання «Белавежа», «Беларускіх календарах» выдаваных БГКТ. У календарах неаднойчы з'яўляліся і надалей з'яўляюцца таксама і мае публіцыстычныя тэксты.

Надышоў і час на кніжны дэбют паэта родам з Мокрага. У 1991 годзе дзённае святло ўбачыў зборнік «Лісты блакітных успамінаў». З тагачасных твораў прабіваецца своеасаблівая энергія, прага дзеяння, перш за ўсё характэрная маладому пакаленню.

— Выхад гэтага зборніка я ўспрыняў вельмі эмацыйна. У гэтых вершах несумненна ёсць мая маладосць, але ўжо не юнацкасць. Яны выбраныя з нейкіх, на гэты час, апошніх пятнаццаці гадоў майго жыцця. Калі сёння гляджу на тыя творы, сцвярджаю, што я б іх крыху перапрацаваў, магчыма, што тое і зраблю. Аднак нягледзячы на крыху іншае сёння ўспрыманне гэтага перыяду маёй творчасці, думаю, што ў гэтым жа зборніку ёсць пэўныя мае, скажам, дыяменты, якія паказалі мне, у якім напрамку варта мне ісці. У многіх думках, поглядах тады запісаных на паперы я нязменлівы і працягваю гэты працэс далей.

Менавіта ў «Лістах блакітных успамінаў» узнікнуў адзін з, да гэтай пары, галоўных вершаў Юркі Баены. Можна сказаць, што «Паведамленне аб прапаўшым» гэта паэтычны маніфест паэта з Бельшчыны.

— Гэта расказ пра чалавека, які выйшаў з вёскі на Беласточчыне. Гэта ананімная асоба, бо такіх людзей у розных вёсках было шмат, асабліва ў 1980-1990-я гады, хаця таксама і раней. Хаця ў вершы ёсць гаворка пра адну асобу, можна сказаць, што гэта тычылася спецыфікі пакалення, прадстаўнікі якога часта апускалі сваё роднае месца жыхарства, каб пераехаць у большыя гарады, а затым і забывалі сваю родную мову, магчыма, што таксама імя і прозвішча. Проста ў гарадскіх абставінах яны даволі хутка асімілюваліся, адначасова забываючы пра свае маладыя гады, нават і тоеснасць.

Дваццаць гадоў таму назад
З сяла Глухое Ніжняе
Выйшаў малады мужчына
І дагэтуль не вярнуўся.
Трэба спадзявацца,
Што хваробе стратай памяці.
Змяніў імя і прозвішча
І напэўна — мову.

Калі хто-небудзь чуў аб ім,
Калі хто-небудзь яго бачыў
Ці знае пра месцапрабыванне,
Просім, каб зараз, неадкладна
Паведаміў старога бацьку,
Які чакае сына.
Як цяпер завуць прапаўшага?
— Не ведаем.
Здымка з апісаннем выгляду
— Не маем.
Падазравайце кожнага.

Як лічыць паэт, пасля выхаду першага зборніка адкрылася магчымасць шырэйшага кантакту з чытачом. Быў гэта перш за ўсё кантакт з моладдзю, тую, якая вывучае беларускую мову, найчасцей кантакты з чытачамі з Бельшчыны.

— Бывалі таксама і сустрэчы ў Бельскім доме культуры, дзе была больш разнастайная чытацкая група. У 1990-я гады, калі было яшчэ крыху больш вясковых школ, таксама ў такіх месцах праводзіў я сустрэчы, наогул з малодшым пакаленнем чытачоў. Запомнілася мне сустрэча ў Дубяжыне. Мяне запрасіла туды тагачасная настаўніца беларускай мовы Яўгенія Таранта. Помню, што быў гэта снежань і я ехаў у Дубяжын на ровары. Аднак атмасферныя абставіны не былі нейкай перашкодай, я ехаў туды з ахвотай, проста хацеў падтрымаць спадарыню Яўгенію ў стараннях зацікавіць вучняў вывучэннем беларускай мовы. Вельмі прыемна ўспамінаю тую сустрэчу, быў пазітыўны прыём школьнікаў і настаўнікаў. Да таго яшчэ цікава было пабываць у школе, дзе некалькі гадоў раней я сам быў настаўнікам, вучыў геаграфіі.

Настаўніцтва гэта не адзіная галіна, якой займаўся ды займаецца Юрый Баена па-за паэзіяй. Шмат гадоў быў ён радным Гарадской рады Бельска-Падляшскага, да гэтай пары займаецца ён грамадскай дзейнасцю, прыкладна ў Саюзе польскага настаўніцтва. Як лічыць, разнастайная грамадская дзейнасць спрыяе паэтычнай творчасці:

— Дзякуючы розным тыпам дзейнасці я маю кантакт з людзьмі, прыглядаюся ім і, дзякуючы таму, гарызонты творчасці намнога пашыраюцца тады. Паэт павінен быць у розных асяроддзях, прыглядацца з'явам, працэсам, а ў асноўным людзям з розных бакоў. Такім чынам паэт з'яўляецца назіральнікам, ён бачыць штосьці звонку. Нібыта звычайныя з'явы для чалавека, які творча нічым не займаецца, з'яўляюцца чымсьці звычайным, простым. Для кагосьці творчага тыя ж самыя з'явы могуць быць нечым складаным, але гэтаксама і разнастайным, багатым. Паэт адчувае і інтуітыўна, ён некаторыя думкі адкладвае на потым і калі ён да іх урэшце вяртаецца, раптам яны з'яўляюцца для яго вельмі патрэбнымі.

Як кажа спадар Юрый, галоўны сэнс паэзіі засяроджваецца на перадаванні надзеі:

— На мой погляд пісьменнік, паэт, павінен трымацца надзеі, праўды, справядлівасці характва — «характва выратуе свет». Зразумела што ёсць і творы з песімістычным пасылам, але я прыналежу да людзей, якія лічаць, што незалежна ад гэтага ж песімізму, пераважаць павінен аптымізм. Можа я сам звонку часам выглядаю на песіміста, але ў глыбіні я аптыміст. І гэта якраз дае мне імпульс для тварэння. Прыкладам верша, у якім паказаны тыя ж адчуцці, з'яўляецца першы твор з майго трэцяга зборніка «Крык дзікай ружы» ад 2003 года. Я тут карыстаюся пэўнымі вобразамі ружы, элементам краявіду, якім пакарыстаўся падчас выказвання сваіх думак. Дзікая ружа тут з'яўляецца сімвалам нашай свядомасці, сітуацыі, тая ружа крычыць бо ёй баліць сэрца за нашу спадчыну. Там прадстаўлена рака, пясок. Рака, якая плыве, сімвалізуе тут час, яна выбірае з-пад ног пясок — тое, што важнае. Але ёсць і надзейная, крыху аптымістычная другая частка гэтага верша.Там гаворка аб збіранні таго, што яшчэ захавалася, «збіраю абломкі памяці» — шукаю таго, што захавалася, «іду да роднага дому» і прашу ружу, каб яна была маім святлом, каб мне дапамагла. Гэта можна інтэрпрэтаваць, што я быццам не здаўся, што нягледзячы на ўсё, я стараюся ісці далей і выбіраць тое што істотнае.

* * *

Край мой — крык дзікай ружы.
Спадчына — боль майго сэрца.
Цёмная рака з пакалення
у пакаленне плыве.
Выбірае пясок з-пад ног, падмывае бераг.
Час правальваецца,
закрывае брамы будучыні.
А лес — маладняк
падыходзіць к парогу.
Святое і мудрае — ціхае,
схаванае, прыніжанае.
Адзіноцтва.
Лёс такі?...
Адкідаю камяні
з мінулых гадоў.
Сярод руін шукаю жывых і мёртвых,
збіраю абломкі памяці.
Праз імглу
вобмацкам іду
да роднага дому.
Ружа, ружа,
будзь святлом
у цёмных калідорах дзён.
Край мой — крык дзікай ружы.
Спадчына — боль майго сэрца.

У сваёй творчасці паэт прысвячае радкі таксама Беласточчыне — родным старонкам падляшскіх беларусаў. На фоне цэлай Зямлі гэта невялікі раён, але папраўдзе шмат што ён у сабе змяшчае, — лічыць Юрый Баена:

— Ужо самая назва майго чацвёртага зборніка — «Пад нашым небам», падказвае, што гаворка ідзе тут пра нас, наша наваколле, наш свет. Нам можа і часта здаецца, што гэты наш свет малы, але так ён адначасова вялікі. Ён змяшчае ў сабе быццам многа спраў, у ім відаць, як мы жывем, што тут адбываецца, як дзейнічаем. Можа і нашы думкі сягаюць шырэй у свет, але адначасова дзейнічаем у мясцовай прасторы, скажам, быццам паводле прынцыпу «думай глабальна, дзейнічай лакальна». Гэты зборнік паэзіі, як і іншыя, я ў асноўным адрасую чытачу зсюль, з Беласточчыны, каб мы разам задумаліся над нашай бацькаўшчынай, адкуль мы родам. Што важнае, я тут не карыстаюся нейкімі канкрэтнымі назвамі, кожны можа тут дапісаць сваё роднае месца.

НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ

На гэтай зямлі
праклалі шляхі
дзяды і прадзеды.
На гэтай зямлі
пакідаем сляды
сваёй прысутнасці.
На гэтай зямлі
першыя крокі
ставяць нованароджаныя.
Святое імя гэтай зямлі,
золатам і срэбрам пісанае —
Яно ў сэрцах нашых!

Тэму бацькаўшчыны Юрый Баена імкнуўся таксама падымаць таксама ў настаўніцтве. У 1997 годзе, навучаючы геаграфіі ў Комплексе школ імя Ярaслава Кастыцэвіча ў Бельску, Юрый Баена падрыхтаваў праграму навучання рэгіянальнай геаграфіі ў пачатковых школах ды ліцэях з беларускай мовай навучання. Гэты праект зацвердзіла тагачаснае Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Тычыўся ён, між іншым, геаграфіі Беласточчыны і Беларусі, міграцыйных працэсаў, якія праходзілі на гэтых землях. Тую праграму Юрый Баена імкнуўся рэалізаваць і на сваіх школьных занятках.

Прывязанасць да сваіх родных старонак паэт-белавежац з Мокрага ўспрымае як дачыненні да свайго прыхода. Юрый Баена з'яўляецца сябрам прыхадской рады парафіі св. Ілы ў Падбеллі.

— Я заўсёды думаў пра веру і царкву. Царква ніколі не была для мяне чужым месцам і я ніколі не адкідаў праваслаўнай веры, гэта проста справа, якой трэба трымацца. У прыхадской радзе я знаходжу перспектыву дзеяння. Вядома, што там дзейнічае многа людзей старэйшага пакалення, ды я таксама не малады, але ўсё ж такі ў мяне ёсць сілы. Лічу, што ў гэтым напрамку трэба працаваць і дзейнічаць. Рэлігія, вера адкрываюць свет, не заўсёды бачны. Тут добрым прыкладам з'яўляецца ікона. Яна — акно ў свет, якога мы не бачым вачыма, а душою (паэзія — сястра рэлігіі).

Тэма рэлігіі закранутая і ў апошнім, сёмым ужо яго зборніку «Вочы зялёнай душы». Кніжка з'явілася напрыканцы 2016 года.

— Пашырыў я тут парарэлігійную тэму. Можна гэта прыкмеціць, між іншым, у канцы гэтага зборніка. Ёсць там творы лірычнай прозы, для прыкладу «Царква ў Падбеллі». Увогуле, паэзію я ўспрымаю як сястру рэлігіі. Таксама сярод такіх форм твораў ёсць і «Ландышавае поле». Тут вядзецца гаворка пра велізарнае поле ландышаў, якія знаходзяцца на масіве Барок, якое знаходзіцца якраз у маіх старонках, паміж Мокрым, Казламі і Падбеллем. Туды я заходжу кожную вясною ў траўні, каб паглядзець як тыя ландышы цвітуць. У творы я выказваю думкі, якія прадстаўляюць мае імкненні да прыгажосці, ідэалу. Вядома, гэты зборнік перш за ўсё запоўнены вершамі. Тут таксама адчувальная рэлігійная тэматыка.

* * *

Вачыма зялёнай душы
ўдаль бягу.
Найвышэй падымаюся,
калі на каленях стаю...

* * *

Тым, хто шукаў дом у далонях
і акіян у кропельцы дажджу,
адчыніліся дзверы —
у бясконцасць...

Паводле Юрыя Баены паэзія нясе свабоду. Гэта мае істотнае значэнне, паколькі бывае, што сучасны лад жыцця ды імкненні тую ж свабоду абмяжоўваюць:

— Калі паглядзім на сённяшніх людзей, можам нярэдка прыкмеціць у іх імкненні будаваць нейкую кар'еру, характэрныя гэтаму часу гонкі. У такіх абставінах чалавек так папраўдзе можа стаць рабом. І бываюць такія выпадкі. А паэзія тым часам вядзе чалавека ў свабоду, якую я насамрэч адчуваю. Сёння, пасля дзейнасці ў ролі настаўніка, раднага, грамадскага дзеяча, сцвярджаю, што я — перш за ўсё паэт. Калі бывалі ў маім жыцці нейкія няўдачы, або нешта не атрымалася такім чынам, як я чакаў, паэзія мне заўжды дапамагала. Яна мой паратунак...

Мацей РАЦІНЕЎСКІ

## Адменены вясковыя сходы

У Арлянскай гміне з пачаткам года адбываліся традыцыйныя вясковыя сходы, на якіх жыхары спатыкаліся з войтам. Сёлета справы маюцца інакш. На сесіі Гміннай рады 28 лютага г.г. войт Пётр Сэльвесюк заявіў:

— Як вам вядома, штогод скліказіся па вёсках сходы, сустрэчы насельніцтва з гміннымі ўладамі. Шмат цяпер гаворыцца пра двухтэрміновасць кіраўнікоў самаўрадаў, але ў сапраўднасці ніхто яшчэ не бачыў ніводнага заканадаўчага праекта ці іншых дакументаў на гэты конт. У сувязі з тым людзі пытаюць, што будзе далей. А я не ў змозе адказаць, што будзе далей у гміне, бо не вядома, ці буду я мог у 2018 годзе быць кандыдатам на пасаду войта, ці трэба будзе выбраць іншае рашэнне.

Некалькі дзён таму меў я нагоду размаўляць з сенатарам ад ПіС, які сказаў, што ў чэрвені адбудзецца агульнапольскі з'езд дэлегатаў ПіС і там будзе прынята канчатковае рашэнне ці будзе абмежаванне тэрміновасці кіраўнікоў самаўрадаў і з якога моманту будзе ўстаноўлены адлік. У сувязі з такой сітуацыяй прапаную, каб стрымацца са сходамі да часу, калі высветліцца, што будзе з самаўрадамі.

Гаворыцца таксама, што кандыдатаў на радных будзе дазволена выбіраць толькі з партыйных спіскаў, а не з уласных выбарчых камітэтаў. Гэта — з аднаго боку — закрыванне перад людзьмі фарткі для вылучэння кандыдатур, бо ж напэўна кожны мае нейкія сімпатыі ці антыпатыі. І вядома дзеля чаго такая задума: каб выгнаць з самаўрадаў людзей, якія не належаць да ніводнай палітычнай партыі; такіх, для прыкладу, як я — я да ніякай партыі не належаў і не належу.

У самой Орлі сход думаем склікаць у сакавіку, бо не вырашана пытанне змены назвы вуліцы Чырвонай Арміі. Гмінная рада мае вырашыць гэтае пытанне да 2 верасня г.г.

Калі хто з солтысаў лічыць, што такі сход павінен адбыцца, то я ахвотны прыехаць. Ведаю, што пачую пытанні, на якія не змагу адказаць.

16 сакавіка г.г. у Варшаве адбудзецца сустрэча ўсіх войтаў, бургамістраў і прэзідэнтаў гарадоў. Такой агульнапольскай сустрэчы яшчэ ніколі не было. Ставім за мэту паказаць, што мы супраць зменам і такому кіраванню дзяржавай, дзе адна асоба гаворыць, а ўсе таму падпарадкоўваюцца і баяцца супрацівіцца. Калі хто мае ахвоту паехаць са мною ў Варшаву — запрашаю.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Ухабістая маставая

Зараз найбольш ухабістая асфальтавая маставая ваяводскай дарогі № 687 на адрэзку з Новага Ляўкова ад скрыжавання ваяводскай дарогі з павятовай у Плянту Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Гэты кавалак дарогі не закончылі як след рамантаваць два гады таму і цяпер ён найбольш небяспечны для дарожнага руху. Было так: аднаўлялі этапамі па 100 па 200 метраў ды пакінулі і з'ехалі. І цяпер некаторыя вадзіцелі аўтамашын ездзяць як п'яныя: то правым то левым бокам шашы, абмінаючы глыбокія выбоіны. А як мне ехаць на ровары. У ім пакрышка не такая шырокая як шына ў самаходзе. А прыходзіцца ж ездзіць.

14 сакавіка гэтага года работнікі дарожнай службы паставілі тут дарожны папераджальны знак «іншая небяспека» — з адным аранжавым трохвугольнікам з выклічнікам ды на тым самым слупе «няроўная дарога» — з другім трохвугольнікам з адзіночным гарбом. Ці яны не адрозніваюць ухабіны ад гарба? Якая выбоіна можа быць гарбом. Мне невядома, у чым тут справа. Каб «залатаць» дзіркі ў маставой яны не падумалі. Не забралі з сабою гэтак званай бітумічнай масы. А шкада. Яна тут безадкладна неабходная. **(яц)**



# «Колеры Праваслаўя Польшча» — трэці альбом

Падляшская ваяводская ксёнжніца імя Лукаша Гурніцкага, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства і Праваслаўны фатаграфічны сервіс «OrthPhoto» ды Асацыяцыя «Orthnet» запрасілі 17 сакавіка ў новую сядзібу ваяводскай бібліятэкі па вуліцы М. Складоўскай-Кюры (былая Універсітэцкая бібліятэка імя Ежы Гедройца) на прамоцыю трэцяга выдання альбома «Колеры Праваслаўя. Польшча» ў спалучэнні з прэм'ерай анімацыі Паўла Іванюка «Праваслаўе ў Польшчы». Зала імя Рышарда Качароўскага запоўнілася з берагамі прыхільнікамі праваслаўя, аматарамі прыгожых здымкаў, аўтарамі выбраных фатаграфій якія апынуліся ў багатым, вялікім і вельмі прыгожым альбоме, а таксама прадстаўнікамі гмін і ўстаноў, якія як дабрадзеі пасадзейнічалі выданню гэтага незвычайнага супольнага твора — гарадоў Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка ды гмін Бельск-Падляшскі, Гарадок, Міхалова, Мельнік, Нараўка, Заблудаў, а таксама Міністэрства замежных спраў РП, Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны РП ды Фонду «Дыялог народаў». Яго рэдактары — Яраслаў Харкевіч, калектыў «OrthPhoto» і Аляксандр Васілюк:

— Альбом «Колеры Праваслаўя. Польшча» гэта прэзентацыя прыгажосці і разнастайнасці праваслаўя ў Польшчы, захопленай у аб'ектывы фотаапаратаў. Гэта таксама дзеля напаміну, што Праваслаўная царква ў гэтым рэгіёне прысутнічае бесперапынна з дзявятага стагоддзя, а яго пачаткі на паўднёвай ускраіне Польшчы звязаны з місіяй хрысціянізацыі святых братоў Кірылы і Мяфодзія ды іх вучняў.

Альбом «Колеры Праваслаўя. Польшча» першапачаткова быў выпушчаны ў 2011 годзе Варшаўскай праваслаўнай мітраполіяй у супрацоўніцтве з парталам www.orthphoto.net. Новае, трэцяе выданне ўзбагачае папярэдняе новымі фатаграфіямі. Усё гэта з'яўляецца выдатным падарожжам, якое распавядае аб Праваслаўнай царкве ў Польшчы. На 146 фотаздымках 57 фатографаў паказана праваслаўе бачанае праз аб'ектыў іхніх фотаапаратаў і іхнія вочы, але і сэрца. Праз фатаграфію можна сказаць шмат. Аўтары фотаздымкаў робяць гэта з запалам, засяродзіўшы ўвагу на выяўленні прыгажосці сакральнага мастацтва і духоўнасці Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Гэты запал, гэтая страсць нялёгкая, патрабуе цярпення, адчувальнасці і тактоўнасці. Дзякуючы запалу магчыма ўвекавечыць кароткія моманты гісторыі і захаваць іх практычна да бясконцасці, хвіліны становяцца даўгавечнымі, становяцца ўступам, прэлюдыяй да больш глыбокага рэлігійнага і духоўнага асэнсавання.

У альбоме ўвекавечаны крыжы, элементы ландшафту і элементы рэлігійнай архітэктуры, дэталі і ўпрыгажэнні храмаў, літургічнае аблачэнне, палаючыя свечкі, іконы і фіміям. У кадрах улоўлены таксама рэлігійныя падзеі — паломніцтвы, святы і абрады. У кадрах адчуваецца глыбіня чалавечых перажыванняў, атмасфера малітвы. У альбоме змешчаны таксама фатаграфіі момантаў, якія не могуць быць выпрабаванымі наведвальнікамі храмаў, якія заходзяць у іх толькі як турысты, таму што яны не апісаны ў даведніках, але ж можна да іх «дакрануцца» праз пасрэдніцтва альбома. Прадстаўлены тут храмы, манастыры, чалавечыя жэсты і эмоцыі, якія ўзносяць таго, хто ўзіраецца ў гэты цуд, да нябачнага. У творах няма вылучэння таго, што матэрыяльнае і духоўнае, і гэты падыход глыбока закадзіраваны ў праваслаўі. Гарманічна сыграны храмы, будныя і святочныя дні, рэлігійныя абрады, іерархі, духавенства і вернікі. Альбом схіляе нас адчуваць і разумець, што Праваслаўная царква ў Польшчы з'яўляецца гістарычным канкрэтным арганізмам, цесна існуючым у прасторы і часе, але ў той жа час спалучаючы неба і зямлю, людзей і анёлаў, жывых і мёртвых, тое, што створанае і нерукатворнае. Пасярод знешніх фактаў яе гістарычнага існавання фотаздымкі нясмела раскрываюць важнейшы план. Знак крыжа, Святое Пісанне, якое чытаецца падчас набажэнства, прадметы культу, аблачэнні, ладан, палаючыя свечкі з'яўляюцца сімваламі ў праўдзівым сэнсе гэтага слова, матэрыяльнымі прыкметамі прысутнасці духоўнага свету. Сімвалізм у праваслаўі больш чым прадстаўленне накіраванае да пачуццяў. Мае ён выклікаць у нас рэальнасць духоўнай натуры, рэальнасць якая заўсёды існуе ў Праваслаўнай царкве. Дзякуючы вынікам прац аўтараў фатаграфій маецца ўражанне, што праваслаўе, хоць з'яўляецца нялёгкай тэмай, вельмі прыцягальнае для мастацтва фатаграфіі. Каляровай, захаплянай і не да канца выказанай адначасова. Гэта толькі здаецца, што паказаны ў альбоме фатаграфіі расказваюць пра крыжы і муры, тумбы і падмуркі. Яны кажуць пра Бога і людзей, расказваюць пра колеры праваслаўя.



Альбом спадарожнічаў 26 выставам пад такім самым загалоўкам, якія паказваліся ў 26 краінах, м.інш. у сядзібе Еўрапарламента ў Брусэлі, у Беларусі, Балгарыі, Грузіі, Малдове, Румыніі, Сербіі, Украіне і Эфіопіі. У 2017 г., дзякуючы датацыі Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны РП, у рамках праграмы «Прасоўванне польскай культуры за мяжой — Промеса» і пры падтрымцы дыпламатычных устаноў РП пакажуць яе ў Літве, Расіі і Фінляндыі, і трэба верыць, што гэта не апошнія краіны, дзе ўбачаць на фота польскае праваслаўе. Сярод фатографаў, між іншым, Кшытаф Вайцяхоўскі, Павел Тадэйка, Міраслаў Дмітрук, Яраслаў Харкевіч, Анна і Андрэй Місеюкі, Гражына Война, Тамаш Паскробка, Каміль Цыванюк, Мацей Навакоўскі, Аляксандр Васілюк, Тамаш Масціцкі, Артур Леанчук, Вольга Фалькоўская, Іаанна Госцік, Тадэвуш Жачэк, а. Міхал Чыквін, Лукаш Троц, Рафал Сцепанюк, Андрэй Харыла, Павел Крыса, сястра Ангеліна, Адам Фалькоўскі, Адрыян Казімірук, Тамаш Гжэсь, Эва Звяжынская, Марк Лях, Славамір Кірылюк, Марта Лукша, Ян Астапкевіч, Міхал Дзевятоўскі, Міраслаў Чапковіч, Пётр Лазовік, Андрэй Гадзеўскі, Іаанна Алясюк, Тамаш Бартнічук, Вальдэмар Бзура, кс. Марцін Хыль, Анна Дунікоўская-Дмітрук, Юзаф Клюха, Лукаш Кананюк, Артур Карпыш, Андрэй Канаховіч, Адам Матышчык, Мікалай Мэндрыцкі, Мікалай Грыч, Яраслаў Качмарчык, Ян Макаль, але і таксама аўтары, якія хаваюцца пад псеўданімамі, напрыклад «партызан».

**ORTHPHOTO** — асаблівае месца ў інтэрнэце, якое ствараецца заадно аматарамі, як і прафесійнымі майстрамі фатаграфіі. Аўтары здымкаў хочуць падзяліцца сваімі творамі, якія прадстаўляюць красу праваслаўя ва ўсім свеце. Дзякуючы фатаграфіям, можам пабываць у месцах, дзе мы ніколі не былі, а быўшы, успомніць і пабачыць нанова, адкрыць іх вачыма іншых людзей. У сервісе цяпер знаходзіцца больш за 85 тысяч здымкаў з амаль 80 краін — ад Бразіліі да Кітая, ад Сібіры да Уганды. Сервіс налічвае 11 моўных версій. ORTHPHOTO гэта прастора, у якой можам не толькі цешыцца фатаграфіямі, але таксама знаёміцца з культурай і архітэктурай розных краін свету, вучыцца як найлепшага фатаграфавання і пазнаваць новых сяброў. Сервіс дзейнічае на аснове валанцёрства, фінансуецца са сродкаў Праваслаўнай ініцыятывы «OrthNet». **(лук)**

# На Дзень жанчын






У Крынках адсвяткавалі Міжнародны дзень жанчын. Свята аказалася настолькі важным мясцоваму насельніцтву, што прысвяцілі яму ажно два мерапрыемствы.

Першае адбылося ў апошні карнавальны, надзельны вечар. У касцёлах у той дзень пачынаўся якраз тыдзень антыалкагольных малітваў.

— Гэта было сапраўднае пападанне ў самую сутнасць, — піша ў сваёй справаздачы адна з арганізатарак і гераінь святкаванняў Гражына Бараноўская. — Публіка як заўсёды паспрыяла. Не было ніводнага свабоднага крэсла.

Прыйшлі не толькі шматлікія жыхары Крынак, але і госці з Шудзялава, Саколкі а нават Беластока. У першых радах селі, між іншым, бургамістр Яланта Гудалеўская і віцэ-дырэктар мясцовай школы Барбара Турыч. Старшыня Гміннай рады ў Шудзялаве Альжбета Кендысь нават торт прывезла.

Пачалося са спектакля „Piękna i Bestia” ў выкананні вучняў другога класа крынскай гімназіі.-

— Апладысментам не было канца, — піша далей спадарыня Гражына. — Вымаўленне, сцэнічны рух і вялікі талент нашай моладзі перанеслі нас у цудоўны, казачны свет, у якім дабро і любоў заўсёды перамагаюць. Сапраўднае свята для душы.

Пасля на сцэну ўвайшлі акцёры мясцовага кабарэ „На лавачцы”. Гражына Бараноўская — яго лідарка ў гэты раз прадстаўляла шыкоўную, прыгожую, сладастрасную жанчыну, якая ловіць не менш за яе прыгожых мужчын. Зачаравала публіку сваім маналогам і бліскучым бракатам дэкальтэ. Публіка безупынна заглушала яе гучнымі апладысментамі, так што бядняжка з цяжкасцю завяршала пачатыя фразы.

А зноў яе калега Марцін распавядаў са сцэны пра жонку, якая безупынна капрызіць і таму замяніў яе на заўсёды паслухмяную бутэлечку.

У сцэнцы „Więzienne tango” Бернард страляў шарамі, у Браяна апрача жонкі было яшчэ шэсць палюбоўніц, Чарлі здраджваў Гражыне з яе сястрой, а Алан Ліпшыц закахаўся ў тоўстага Рыха.

А пасля солтыска Лапічаў Люцына Юркевіч надумалася падкупіць сваіх выбаршчыкаў бімбрам. У выніку сама ўпала пад стол ад празмернай колькасці спажытага трунку. Разам з ёю — выбаршчыцы Галена і Вацлава.

На канец выступілі крынскія „Лотасы” з салісткай Каміляй — дачкой спадарыні Гражыны. Спявала і публіка.

Праграма аказалася настолькі багатай, што „Заранцы”, якая некалькі тыдняў рыхтавалася да гэтага свята, у той вечар месца на сцэне па просту не хапала.

Выступалі яны ў суботу пасля Дня жанчын. Паслухаць іх прышлі ў асноўным матулі. Адным выключэннем была спадарыня Дарошка — суседка часткі заранічных спявачак. Яна нават прапусціла царкоўную спеўку, каб падтрымаць спяваючых дзяўчат. Ну і прыйшоў аднакласнік Адась Янкоўскі разам са сваёй мамай. Яго мама гаворыць, што Адась зачараваны песнямі „Заранкі”. Звычайна падглядае іх у школьнай бібліятэцы ў час нефармальных рэпетыцый калектыву.

Былі прысвячэнні. Першае Альжбеце Чарэмсе за праменьчыкі святла, якія дорыць крынскім дзецям. На песні „Ты жывi, мая мама” аўтарства Зміцера Вайцюшкевіча сабраныя жанчыны ўпершыню ў гісторыі канцэртаў „Заранкі” паплакаліся.

Пры тым усе адначасова. Зміцер — здаўна любімы выканаўца Тані Малешы і менавіта яна настойвала, каб праспяваць ягоную „Маму”. А яшчэ паплакаліся яны на традыцыйнай, беларускай „Зялёнай вішні”. На шчасце былі і вясёлыя танцы, у тым ліку „Лысы”. Спадарыні Альжбеце настолькі спадабалася, што вырашыла ў недалёкай будучыні правесці ў Крынках танцавальныя майстар-класы з „Заранкай”.

Пасля канцэрта маленькі сюрпрыз ад дашкольніка — брацікa адной з удзельніц „Заранкі” Амэлькі Кукіш. Да мікрафона праспяваў ён нашу калыханку. Вельмі хоча ў калектыў, але што скажа на гэта сястра....

Былі словы ўдзячнасці і салодкія ўзнагароды ўсім членам калектыву ад мамы Улі і Патрыцыі — Асі Янкевіч. Спадарыня Эля таксама не забыла пра ласункі.

Для такога канцэрта варта жыць.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Рускі конкурс з беларускім акцэнтам

Вялікім заіцкаўленнем карыстаўся XIV Дэкламатарскі конкурс рускай паэзіі «Страфы пад самаварам», які 11 сакавіка адбыўся ў Комплексе звышгімназічных школ № 2 у Седльцах. Удзельнічала ў ім больш за 60 вучняў. Арганізатарам выступіў Самаўрадавы цэнтр кансультацыі і ўдасканальвання настаўнікаў. Як сказала Эва Ягела, галоўнай мэтай конкурсу было не толькі стымуляванне зацікаўленасці вучняў рускай мовай, але таксама заахвочванне моладзі да выказвання сваёй экспрэсіі ды інтэрпрэтацыі паэтычнага зместу. Малгажата Агнешка Савіцкая сказала «Ніве», што сёлетні конкурс быў своеасаблівы, таму што яго ўдзельнікі маглі паглядзець выступленне калектыву народнага танца «Крынічанька» Брэсцкага дзяржаўнага абласнога цэнтра маладзёжнай творчасці. Публіка мела магчымасць пазнаёміцца з танцамі і песнямі не толькі рускімі, але і беларускімі. Неспадзяванкай было спантаннае выкананне аднаго з твораў з удзелам Якуба Ляхоўскага — ліцэіста з Сакалова-Падляшскага.

Лаўрэаты вылучаліся ў трох узроставых катэгорыях. Сярод вучняў падставовых школ пераможцамі сталі: I месца — Зузанна Врубель, II — Мая Врубель (абедзве з ПШ № 1 у Белай-Падляшскай), III — Магдалена Мазурак (ПШ у Вішніцах), вылучэнні — Магдалена Драган (ПШ у Вішніцах), Канстанцыя Пшаздзецкая (ПШ у Жаляхове), Алівер Астойскі (ПШ у Стоку-Ляцкім). Найлепшыя вынікі сярод гімназістаў заваявалі: I месца — Патрыцыя Нядзюлка (Гімназія ў Даманіцах-Калёніі), II — Дамінік Лагунь (Гімназія № 2 у Лукаве), III — Каміля Вянцкоўская (Гімназія ў Жалькове-Калёніі), вылучэнні — Марцін Цабай, Вікторыя Садовяк (абое з Гімназіі ў Даманіцах-Калёніі), Анна Яворская (Гімназія ў Вежбне). Сярод вучняў звышгімназічных школ самымі лепшымі аказаліся: I месца — Патрык Хмеляк (II Агульнаадукацыйны ліцэй у Седльцах), II — Катажына Кандрацкая (I Агульнаадукацыйны ліцэй у Сакалове-Падляшскім), III — Юлія Гадаванюк (Комплекс звышгімназічных школ № 2 у Седльцах), вылучэнні — Якуб Ляхоўскі (I Агульнаадукацыйны ліцэй у Сакалове-Падляшскім), Алена Цабай (I Агульнаадукацыйны ліцэй у Седльцах). Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі ганаровыя граматы і падарункі.

Значны ўплыў на ацэнку вучняў мелі беларусы, якія практычна складалі палову журы. Вучняў ацэньвалі д-р Людміла Шыпялевіч (Варшаўскі ўніверсітэт, старшыня Польскага таварыства настаўнікаў і выкладчыкаў рускай мовы), праф. Адам Бобрык (Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах), Яна Ядлоўская (Гімназія ў Даманіцах-Калёніі), д-р Валянцін Казакоў (намеснік старшыні Польска-рускага культурна-асветнага таварыства «Эрмітаж») ды Галіна Іванова, Ірына Кутсен і Ганна Аксютчык з Брэсцкага цэнтра маладзёжнай творчасці. Члены журы адзінадушна сказалі, што ўзровень дэкламацыі быў высокі, а вучні ў творчы спосаб падыходзілі да інтэрпрэтацыі твораў. Госці з Беларусі ўпершыню ўдзельнічалі ў конкурсе, але выказалі спадзяванне, што будуць таксама ўдзельнікамі чарговых мерапрыемстваў. «Для нас гэта добры вопыт і такі ж прыклад супрацоўніцтва па-над межамі, якое стварае клімат шматкультурнасці», — сказала Галіна Іванова. Ганна Аксютычк у сваю чаргу прапанавала правядзенне конкурсу беларускай паэзіі. Прапанова сустрэлася з зацікаўленнем, аднак пэўнай праблемай з'яўляецца тое, што вучняў беларускай нацыянальнасці ў мясцовых школах мала і ніхто не хадайнічаў за навучанне беларускай мове ў якасці роднай. Тэарэтычна гэта было б магчымае, паколькі ў некаторых школах вучацца па трое і больш дзяцей беларускай нацыянальнасці. У Седльцах праводзіліся мерапрыемствы, у ходзе якіх прэзентавалася беларуская культура. Верагодна, што і ў будучыні ў супрацоўніцтве з Брэстам удасца сарганізаваць дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі.

Адам БОБРЫК

Рэдакцыя «Нівы» віншуе Спадара **Віктара ШВЕДА** з ягоным юбілеем, з 92-ай гадавінай з дня нараджэння. Дзякуем Вам за тое, што Вы ёсць з намі ў кожным нумары нашага тыднёвіка. Многія леты!



## Мой дэбют

Маланкава нам сапраўды
Імчаць жыццёвыя гады.
Вось шэсцьдзесятгадовы тут
У „Ніве” творчы мой дэбют.

Толькі ж гадоў мая гаворка
Вялася з „Ніваю” і „Зоркай”.
Каб наш айчынны родны кут
Мог жыць у шчасці, без пакут.

У плённай ніваўскай прасторы
Твораў я аставіў мора.
Спрыяе лёс мне дабратлівы,
Далей сябрую з „Зоркай”, „Нівай”.

24 сакавіка 2017 года

## Сумаванне

У чатырохгадовым узросце
Упершыню я ўбачыў Сонца.
Свет, быццам райскай
прыгажосці
Ачараваў мяне бясконца.

Я летуценнік таго свету,
Красы ягонай атрымальнік
Стаў адчуваць сябе паэтам,
Гэта быў дослед натуральны.

І многія збыліся мары.
Нязбытыя ў нябыт канулі.
І падышла чаргова старасць
І астаецца ўсё ў мінулым.

## Беларуская Біблія

Доктар Францыск Скарына
Нам у спадчыне пакінуў
Паўтысячы гадоў назад
Біблії святое словы
На беларускай роднай мове,
Свой дасканалы пераклад.

Не дайма, верныя людкове,
Памерці старажытнай мове
Так нішчанай штогод.
Мы, як народ, паверце,
Далёкія ад смерці,
Нам мроіцца ўзыход!



зорка
для дзяцей і моладзі

Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl



## Пагоня

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, –
Успомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, –
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі – гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За Твоімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх – біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Максім Багдановіч,
1916 год

# Творчыя прапановы пад знакам «Пагоні»

Нядаўна ў час размовы з адной лаўрэаткай мы пачулі такія словы: *Najfajniej było napisać o takim starym herbie z koniem...*

Мова пра задачу, якая датычыла беларускай сімволікі — герба «Пагоня». Менавіта з такім пытаннем прыйшлося справіцца фіналістам прадметнага конкурсу па беларускай мове ў пачатковых школах. Задача не была цяжкай, усе веды пра герб былі пададзены ў вершы. Нас шакіраваў адказ вучаніцы. Найперш таму, што для свядомых беларусаў герб «Пагоня», як і бел-чырвона-белы сцяг не з'яўляюцца памяткай гісторыі, толькі вечна маладымі, актуальнымі і натхняльнымі сімваламі. Праўда, герб з выявай рыцара на кані быў вядомы ўжо ў старажытныя часы, але тады ён служыў паасобным гарадам-княствам. Такі герб, напрыклад, мае наш Браньск.

25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. З таго часу «Пагоня» стала нацыянальным беларускім гербам і сімвалам незалежнасці дзяржавы. У ім запісаны ідэалы краіны — любоў, вернасць, адвага і свабода.

Дзіцячы адказ лаўрэаткі шмат сказаў пра аднагодкаў нашай гераіні. Проста, мы мала ведаем пра сваю гісторыю, пра нацыянальную сімволіку. Не ў кожнай сям'і гавораць пра 25-ае Сакавіка, пра герб, пра сцяг, пра гісторыю. У некаторых школах настаўнікі прапануюць глядзець на незалежную сімволіку як на гістарычную з'яву. Гэта таму, што ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь іншая атрыбутыка. Але гэта яшчэ нічога не значыць! Незалежніцкая сімволіка жыве сваім жыццём і нішто не прадказвае, што яна згубіць значэнне або знікне. Наадварот, нягледзячы на арышты і забароны, сімвалы вольнай Беларусі матывуюць новыя пакаленні беларусаў.

Нам, у сваю чаргу, трэба вывучаць гісторыю, ведаць імёны патрыётаў, якія змагаліся за беларускую мову і наша месца на зямлі. За год будзем адзначаць сотыя ўгодкі БНР і варта памятаць, што за ідэалы 25-га Сакавіка змагалася шмат беларусаў Падляшша. Сярод іх трэба назваць прозвішчы Яўгена Хлябцэвіча з Кленік, Язэпа Варонкі з Кузніцы-Беластоцкай, Усевалада Ігнатоўскага з Такароў, Івана Краскоўскага з Дубіч-Царкоўных, Аляксандра Грыкоўскага з Новага Корніна, Яраслава Кастыцэвіча з Бельска-Падляшскага ці Міколы Дзямідава з Гарадка. На жаль, у нашым асяроддзі, шырэй вядомы адзін Яраслаў Кастыцэвіч. Аднак усе пералічаныя імёны заслугоўваюць пашаны і памяці. Яны былі не толькі дзеячамі, але знакавымі людзьмі сваёй эпохі і каларытнымі індывідамі. Варта, каб у такім Гарадку ці Дубічах-Царкоўных падумалі пра свой панадворак, каб прыгадалі імёны нашых патрыётаў. Такую ідэю ўжо ажыццяўляюць у бельскай «тройцы», дзе нараджаецца тэатральны спектакль пра Яраслава Кастыцэвіча славутага патрона школы.

ЗОРКА



**УВАГА КОНКУРС! № 13-17**

**На палянцы
пасля цёплай ночкі
глядзяць,
смяюцца
сінія вочкі.
П....... (У. Мацвеенка)**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 9 красавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 10-17: хамяк.**
Узнагароды, новыя кніжкі Міры Лукшы «Гражынка і грак» з аўтографам, выйгралі **Габрыеля Калішук** з Бельска-Падляшскага, **Анна Кендысь, Матвей Зыскоўскі** з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

# «Тройка» на пяцёрку

Складаецца ўражанне, што да школьнага адбору дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» вучні ставяцца больш сур’ёзна, чым нават да цэнтральнага агляду. Вось такі школьны адбор прайшоў у бельскай «тройцы». Вершы дэкламавала каля 70 вучняў і трэба сказаць, што ніхто не выглядаў на стомленага. Паколькі малодшыя выступалі з вясёлымі вершыкамі пра жывёл ці смешныя школьныя сітуацыі, з узростам дэкламатараў павышаўся ўзвышаны змест выбраных твораў. Тут выламаўся толькі Ілья Гапанюк з трэцяга класа, які выбраў верш Эдзі Агняцвет «Зямля з блакітнымі вачамі». Трэба дадаць, што Ілья спрабаваў зраўняць свае магчымасці з сябрамі па гімназіі вельмі эмацыйнай дэкламацыяй. Мяне ўразіў. Але не толькі тое ўразіла. На амаль семдзесят выступоўцаў не паўтарыўся ніводзін верш. Так як я ўжо сказала, малодшыя выбіралі дзіцячых пісьменнікаў, старэйшыя — класікаў беларускай літаратуры. Але, як адзначыла камісія, вялікае значэнне пры ацэнцы мела тое, ці дэкламатар разумее і адчувае выбраны самастойна, ці пры падказцы настаўніка, твор. Я ў тым не сумняваюся. Размаўляючы на калідоры з вучнямі трэцяга класа, паставіла я ім банальнае пытанне: «Ці можам пагаварыць на беларускай мове?». У адказ пачула гучнае «Так!». Оля Сіманенка дадала: «Мой бацька — беларус, так што...». І для мяне ўжо ўсё было ясна.

Вучні з «тройкі» дэкламавалі свае творы беспамылкова. Ну, можа чуйнае вуха настаўніцы Валянціны Бабулевіч нешта прыкмеціла, але звычайны слухач напэўна не. Таму вучні, ведаючы, што цяжка ўразіць камісію проста беспамылковым выступам, шукалі іншых спосабаў. Павал Сэльвесюк рассакрэціў усім свой спосаб як «заваяваць» сэрцы членаў конкурснай камісіі:

— Стараюся сказаць добра, але таксама трэба мець адпаведнае адзенне для дэкламавання вершаў, — адзначыў Павал. — Я ўпэўнены, што гэта мне памагло.

Але напэўна не толькі Павал так лічыць. Я, як жанчына, з зайздрасцю глядзела на прыгожыя блузкі, спадніцы і сукенкі дзяўчат. Напэўна будуць яны на чале ў ваяводскім конкурсе. Найгоршае за імі.

**Уршуля ШУБЗДА**


Бэрэшчук Клаўдзія


Анхімюк Лаўра



## Вершы Віктара Шведа



### Удумлівы Валодзя

Татульку пытаецца
Сыночак Валодзя:
— Што з людзьмі
здараецца
Калі адыходзяць?

— Праху, пылу трошкі
Пасля іх застанецца.
— Было пад маім ложкам
Іх многа, мне здаецца.

### Класікі

Вучняў сваіх
Настаўнік пытае:
- Пісьменнікаў якіх
Класікамі называем?

На пытанне ўміг
Адказала Бася:
— Пісменнікаў, якіх
Развучаем у класе.



Сяржук Сокалаў-Воюш

### Рыцар

Рыцар — смелы чалавек.
Рыцар — добры чалавек.
Часам войнаў — ён ваяр,
Мірным часам — гаспадар.

Ён заўсёды нас бароніць,
Ён заўжды на вышыні,
І таму наш герб — Пагоня —
Рыцар з мечам на кані.

Мне яшчэ няма шасці.
Я стараюся расці
Як хутчэй. І, кажа мама,
Буду рыцарам таксама.

## Польска-беларуская крыжаванка № 13-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9-17:**

Слых, фота, клей, смайлік, сам, сноб, Ян, дух, клака. Суп, сук, кмен, ода, фейсбук, войт, імя, парк, нос.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Дам’ян Карнілюк, Наталля Маркевіч** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Матвей Зыскоўскі, Аляксандра Аніськевіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Вікторыя Габец** з Міхалова, **Мая Тапалянская, Оля Хіліманюк, Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Аня Парфянюк** з Новага Корніна. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Miód / Gust | | | | | | |
| | Mag | Gęsi / Bójka | | | | | Kuna | | Szklarnia |
| | Bocian / Majak | | | | | | Anioł | | Alan |
| Most | | | | | Wszyscy | Nil / Ala | | | |
| | | | | Krzak | Czy ... | Nil | | | |
| Portal / Jak | | | Zdanie | | Ciocia | | | | |
| | | | | Mediolan | | | | | |

# Самыя папулярныя імёны і прозвішчы на Гайнаўшчыне

**Малгажата Цэтра** была здольнай вучаніцай Гайнаўскага белліцэя, фіналісткай Алімпіяды па беларускай мове. Працягвала яна вучобу на аддзяленні польскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і напісала там бакалаўрскую працу на тэму імён і прозвішчаў вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. У 2015 і 2016 гадах даследавала яна персаналіі тадышніх белліцэістаў і белгімназістаў у класных журналах. Падчас сустрэчы, наладжанай 14 сакавіка ў Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы, свае высновы Малгажата Цэтра параўнала з ранейшым даследаваннем імён і прозвішчаў вучняў Гайнаўскага белліцэя прафесара Міхала Саевіча, загадчыка беларусістыкі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне.



Малгажата Цэтра (злева) і дырэктар Гарадской бібліятэкі Ала Грыц



Сабраных прывітала дырэктар Гарадской бібліятэкі Ала Грыц, якая прадставіла Малгажату Цэтру і звярнула ўвагу на яе бакалаўрскую працу, прысвечаную мясцовым імёнам і прозвішчам. Тыдзень да спаткання закончыўся «Тыдзень рэгіянальнай кнігі», падчас якога ў памяшканнях гайнаўскай бібліятэкі былі арганізаваны выставы кніг аб Гайнаўцы і наваколлі, праводзіліся бібліятэчныя ўрокі для вучняў на тэму краязнаўчых кніжак. Дырэктар бібліятэкі прапанавала сабраным чытаць краязнаўчыя кніжкі, якія былі раскладзены ў зале на сталах. У гэтай жа зале можна было паглядзець выставу алейных карцін Міколы Яноўскага са Старога Беразова. Дырэктар Ала Грыц запрасіла наведаць бібліятэку 17 сакавіка, калі мела адбыцца адкрыццё выставы мастацкіх прац Барташа Шпаковіча з Белавежы, які зараз паспяхова займаецца ў Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы і перамагае на конкурсах.

— Збіраючы матэрыял да сваёй працы, я ў 2015 і 2016 гадах карысталася дадзенымі з электронных класных журналаў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Даследавала імёны і прозвішчы 377 вучняў гэтай школы, народжаных у 1997-2003 гадах. Сярод даследаваных мною вучняў 85% састаўлялі жыхары Гайнаўкі, а 15% вучняў паходзіла з вёсак і іншых мясцовасцей. Свае даследаванні я параўнала з багатымі даследаваннямі прафесара Міхала Саевіча, кіраўніка беларусістыкі Універсітэта МКС у Любліне, які аналізаваў імёны і прозвішчы вучняў Гайнаўскага белліцэя, што вучыліся там у 1953-1993 гадах, народжаных у 1934-1975 гадах, — паінфармавала Малгажата Цэтра.

— Самыя папулярныя даследаваныя мною імёны белгімназістаў і белліцэістаў гэта Лукаш, Барташ, Якуб, Матэвуш, Адам, Давід і Павел. У даследаваннях прафесара Міхала Саевіча атрымалася, што найчасцей вучні Гайнаўскага белліцэя ў 1953-1993 гадах называліся Ян, Мікола, Юры, Яўген, Аляксандр, Васіль, Рыгор і Віктар (якіх памяншальныя формы на вёсках гучалі Ваня, Коля, Жоржык, Генік, Саша або Шура, Вася, Грыша і Віця, — А. М.). Сярод даследаваных мною 240 вучаніц белгімназіі і белліцэя, найчасцей называліся яны Наталля, Магдалена, Аляксандра і Патрыцыя. Падчас даследаванняў Міхала Саевіча высветлілася, што ў 1934-1975 гадах будучых вучаніц Гайнаўскага белліцэя найчасцей называлі Марыя, Ірэна, Анна, Галіна і Валянціна. Многа нашых імён мае грэчаскія, старазяўрэйскія і славянскія карані, — гаварыла Малгажата Цэтра. Цяпер сярод белліцэістак і белгімназістак яна не знайшла імён Ірэна, Галіна і Валянціна, была адна Марыя і толькі ў прыкметнай колькасці вучаніцы яшчэ называліся Аннамі. Не было цяпер таксама імён Ніна, Таіса і Тамара, якіх у даследаванні прафесара Саевіча было многа.

— У выпадку даследаваных мною прозвішчаў найчасцей сустракаліся прозвішчы з канчаткам -ук, якія саставілі ажно 35% усіх аналізаваных мною прозвішчаў вучняў. Такія прозвішчы характэрныя ўсходнім славянам. Многа было таксама прозвішчаў з канчаткамі -скі або толькі -кі, -чко або толькі -ко, а таксама з канчаткамі -овіч і -эвіч. Прынялося меркаваць, што прозвішчы з канчаткамі -скі гэта шляхецкія польскія прозвішчы, але на ўсходніх тэрыторыях такія прозвішчы прысвойваліся звычайным сялянам, калі да назвы мясцовасці, дзе яны жылі, дабаўляўся канчатак -скі, напрыклад селянін Грабова атрымліваў прозвішча Грабоўскі. Прозвішчы ствараліся яшчэ ад іншых тапаграфічных назваў, ад названняў прадметаў, звярыны, птушак, ад з'яў прыроды, часта таксама ад імён, клічак, ці прафесій, — тлумачыла Малгажата Цэтра. Яна высветліла, што самымі частымі прозвішчамі ў белліцэі і белгімназіі цяпер былі Дмітрук, Раманюк, Леанюк, Іванюк, Купталь, Ляўчук, Маркевіч, Семянюк і Ціханюк. З даследаванняў Міхала Саевіча вынікае, што ў 1953-1993 гадах пераважалі прозвішчы Раманюк, Паўлючук, Леанюк, Раманчук, Мартынюк і Лукашук. У абодвух даследаваннях як адны з самых распаўсюджаных паўтараюцца прозвішчы Раманюк і Леанюк.

На спатканне з Малгажатай Цэтрай прыйшлі яе бацькі Ніна і Аляксей Цэтры. Быў перыяд, што дзяўчатак не называлі іменем Ніна, але ад нейкага часу гэтым іменем, якое атаясамліваецца з вялікай грузінскай святой Ніно, бацькі сталі зноў называць сваіх дачок. Малгажата Цэтра ўдакладніла, што ў мінулым у праваслаўнай традыцыі, падбіраючы імя для сваіх дзетак, звярталі ўвагу на імя святога, які нарадзіўся ў прыбліжаным часе. Падбіраліся таксама імёны для дзетак тых святых, да якіх асабліва маліліся вернікі. Напрыклад у Старакорнінскім і суседніх прыходах дзяўчатак часта называлі іменем Анна па прычыне асаблівага шанавання ў гэтым рэгіёне святой праведнай Анны, маці Прасвятой Багародзіцы, чаго доказам былі шматлюдныя фэсты ў Старакорнінскай царкве ў дзень праведнай Анны. У маёй бабулі Вольгі была сястра Ганна. Маю цётку называлі Анюткай, Анютай. У гэты час Анны называлі таксама Гандзямі (так напрыклад называюць цётку маёй жонкі) і Ганкамі. У мяне былі сяброўкі і дваюрадная сястра, якіх называлі ўжо толькі Анямі і так мы з жонкай назвалі дачку, запісаўшы яе афіцыйна Анна. Многа называных па-рознаму Аннаў спатыкаюцца 7 жніўня ў Старым Корніне на святкаваннях у гонар святой праведнай Анны. Традыцыя называць дзяўчатак іменем Анна ў наваколлі славутага Старога Корніна, да якога таксама належыць Гайнаўка, яшчэ працягваецца, што зафіксавала таксама Малгажата Цэтра ў сваім даследаванні.

— Мая родная вёска гэта Рудуты Арлянскай гміны, але род Цэтраў выводзіцца з Тапаркоў Кляшчэлеўскай гміны. Там на могільніку пахаваны мой дзядуля. У Тапарках жывуць яшчэ дзве сям'і Цэтраў, але яны не з'яўляюцца маімі сваякамі. Мабыць, сем'і Цэтраў былі пароднены ў адлеглым мінулым, — удакладніў Аляксей Цэтра.

Даследчыца выявіла радасць, што бацькі назвалі яе Малгажатай. Падчас сустрэчы паказала яна, як мяняюцца імёны на працягу гадоў. Абязлюдзенне вёсак даводзіць да таго, што хутка знікаюць прозвішчы і імёны ў сёлах Гайнаўскага павета, якія стагоддзямі перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Прыкладам можа быць мая родная вёска Новае Беразова і мой род. У гады майго дзяцінства ў 10 дамах жылі людзі з прозвішчам Мароз, якое пасля стала хутка зводзіцца. Жылі тады ў Беразове чатыры мужчыны, якія называліся Грыгорый Мароз. Калі прыходзіў ліст, на якім не быў пазначаны нумар дома, прыходзілася тады Рыгорам высвятляць да каго прыйшоў гэты ліст. Зараз у Беразове толькі ў 4 дамах жывуць яшчэ асобы з прозвішчам Мароз. Іменем Грыгорый, як назвалі майго бацьку і мужоў сясцёр маёй мамы і майго бацькі, у вёсках вакол Гайнаўкі хлопчыкаў ужо не называюць.

Дырэктар Ала Грыц уручыла Малгажаце Цэтры кніжныя падарункі, між іншым зборнік вершаў пра каханне — плён бібліятэчнага конкурсу. Дырэктар зачытала з гэтай кніжкі займальны верш пра каханне, які напісала прысутная на спатканні Вера Масайла, таксама пераможца ніўскіх конкурсаў. Спадарыня Вера, моцна ўзрушаная па прычыне прачытання яе верша, выявіла зацікаўленасць даследаванымі Малгажатай Цэтрай і прафесарам Міхалам Саевічам імёнамі і прозвішчамі выхадцаў з вёсак Гайнаўшчыны і іх нашчадкаў, да якіх належыць таксама яна сама. Імёны Вера, Люба і Надзея, якія Праваслаўная царква выдзеліла ў адно вялікае святкаванне, замяшчаюць цяпер Наталля, Магдалена, Аляксандра і Патрыцыя, пра што піша ў сваім даследаванні Малгажата Цэтра. Заявіла яна, што зараз на выбар імён для дзетак часта маюць уплыў мода, а нават іх незвычайнасць. Канешне, частка бацькоў звяртае ўвагу перш за ўсё на імя святога, які будзе апекуном у жыцці дзіцяці, а пасля дарослага чалавека, а пры гэтым і на сямейныя традыцыі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Крыху Усходу на Захадзе

**Нядаўна ехаў я з Ольштына ў Беласток, на аўтобусе. У Астралэнцы здзівіў мяне касцёл з чырвонай цэглы арыгінальнага дызайну — са шматлікімі візантыйскімі архітэктурнымі элементамі. І ў адлеглай ад Астралэнкі Ломжы з акон аўтобуса паказалася як жа вядомая „мураўёўка” з лацінскімі крыжамі...**

У першай палове XIX стагоддзя расійскія ваенныя стратэгі рашылі пабудаваць на захадзе імперыі сістэму крэпасцей. Крэпасці гэтыя былі звеннямі абарончага ланцуга, які акружаў Усходнюю Прусію з поўдня і ўсходу па лініі Віслы, Нарвы, Бобры і Нёмана. Галоўнымі звеннямі гэтай сістэмы былі Дэмблін, Варшава, Модлін, Ломжа, Асавец, Гродна, Коўна... Меншымі звеннямі былі фарты, раскіданыя паміж галоўнымі крэпасцямі. Адзін з такіх фартоў меў быць пабудаваны ў Астралэнцы. Пачаліся зямныя працы, аднак крыху пазнавата, у канцы XIX стагоддзя, калі расійскім ваенным ведамствам стаў кіраваць генерал Уладзімір Сухамлінаў. Ён палічыў фарты і крэпасці ўстарэлымі элементамі ваеннай інфраструктуры. Распачатая ў Астралэнцы будова была спынена. А ўжо ў ходзе Першай сусветнай вайны расійская армія, прытрымліваючыся дактрыны Сухамлінава, пакідала без баёў магутныя крэпасці і фарты, адступаючы на ўсход.

У Астралэнцы, аднак, у царскі час знаходзіўся вялікі вайсковы гарнізон, які, як мяркуюць адны гісторыкі, меў прыкрываць граніцу са згаданай Усходняй Прусіяй і, як мяркуюць другія, меў быць апорным пунктам на выпадак нейкага польскага паўстання. Тут жа 26 мая 1831 года разыгралася адна з найважнейшых бітваў Лістападаўскага паўстання; у 1847 годзе быў там узведзены абеліск на памяць перамогі расійскіх войск. На ўсходняй акраіне горада, у Вайцехавіцах, быў узведзены казарменны комплекс, бо ў гарнізоне размяшчаліся тры палкі. Войска было, такім чынам, у Астралэнцы шмат, таму ў казарменным комплексе была ўзведзена і царква.

У інфармацыйнай вітрыне перад храмам паведамляецца, што ў 1888 годзе царскія ўлады пабудавалі ў Астралэнцы казармы, а ў 1890 годзе была ўзведзена Петра-Паўлаўская царква. Калі ў 1915 годзе Астралэнку занялі немцы, храм на нейкі час стаў пратэстанцкім, а пасля будынак быў прызначаны на склад. 26 мая 1921 года ў Астралэнку быў пераведзены Заслаўскі полк уланаў і палкоўнік Спірыдон Кайшэўскі загадаў адаптаваць храм на гарнізонны каталіцкі касцёл. У час Другой сусветнай вайны тут зноў быў вайсковы склад. З 1945 да 1975 года храм пуставаў, а пасля зноў стаў месцам культу. Пра перыяд 1939-1941 гадоў няма згадкі. А варта тут заўважыць, што ў той перыяд нямецка-савецкая мяжа праходзіла паміж Астралэнкай і Вайцехавіцамі, якія сёння з'яўляюцца кварталам горада; у Вайцехавіцах, у тамашніх вялікіх казармах, верагодна, размяшчаўся савецкі гарнізон, тады калі суседняя Астралэнка апынулася пад нямецкім панаваннем. Які быў лёс таго гарнізона — можна толькі здагадвацца...

Пабудаваныя сто дваццаць гадоў таму казарменныя будынкі з чырвонай цэглы мясцовага вырабу, мабыць не ўсе, захаваліся да сёння. Царква была таксама з чырвонай цэглы і яе муры таксама захаваліся. Храм прайшоў толькі адаптацыю, прышчэпку, такую ж самую, па сутнасці, як і прышчэпліванне садовых дрэў — царкоўныя купалы былі „ссечаны” і на іх месца з'явіліся тыповыя для касцельнага будаўніцтва „чаранкі”. Дасюлешніх заступнікаў храма — Пятра і Паўла — заступіў святы Вайцех; касцёл жа ў Вайцехавіцах...

У тых жа Вайцехавіцах, часткова на месцы казарменнай тэрыторыі, у пасляваенны час былі ўзведзены два буйныя прадпрыемствы: комплекс электрастанцый ды фабрыка цэлюлозы; апошняя выкідае ў атмасферу не надта прыемны пах, хаця, як мне суб'ектыўна здаецца, ён значна менш дакучлівы чым сорак гадоў таму. А людзі там працуюць і жывуць...

У Ломжы царкоўныя справы ладзіліся крыху інакш. Ломжа цягам гісторыі была традыцыйна адміністрацыйным цэнтрам.


Касцёл св. Вайцеха ў Астралэнцы

Слоўнік Брокхаўза і Эфрана: „Исторически известною Ломжа становится только с начала XV в., когда она принадлежала князьям Мазовецким; некоторые из них подолгу живали в Ломже, председательствовали здесь в народных собраниях и чинили суд и расправу. Под властью князей Мазовецких Ломжа прожила свои лучшие дни. Раскопки и случайные находки, сделанные в продолжение текущего столетия, свидетельствуют об обширных размерах и богатстве древней Ломжи, едва ли уступавшей тогда Варшаве. Она имела 2 замка, 7 костелов, 3 часовни, 2 ратуши; в одной из них были башенные часы, над которыми находился щит с гербом города (бегущий олень), выкованный из чистого золота; в арсенале хранились боевые припасы для всей Мазовии. Город имел свой водопровод и был весь вымощен”. У 1867 годзе Ломжа стала цэнтрам новастворанай губерні і сюды сталі прыбываць расійскія чыноўнікі. Гарадскі партал: „Po ustanowieniu Łomży miastem gubernialnym, wytyczono Plac Soborny (obecnie Pl. Jana Pawła II) i wybudowano cerkiew (od 1917 r. kościół katolicki, w II Rzeczpospolitej kościół garnizonowy). Obok cerkwi miał swoją siedzibę gubernator łomżyński (obecnie Wyższe Seminarium Duchowne). Ówczesna nazwa ulicy to Soborno-Cerkiewna”. Цяпер гэта вуліца Генрыка Сянкевіча...

Прыход быў заснаваны раней; кніга „Zapomniane dziedzictwo” Антаніны і Рыгора Соснаў: „Parafia prawosławna św. Trójcy powstała 21 maja 1834 roku. Mieściła się w domu prywatnym Żyda Nowiny i liczyła w 1863 r. 286 osób. W kilka lat później liczba parafian wzrosła do 842 osób”. І далей: „W 1873 r. położono kamień węgielny pod budowę nowej murowanej sobornej cerkwi św. Trójcy przy obecnym placu Sienkiewicza. Wyświęcenia cerkwi zbudowanej w stylu eklektycznym z cegły, otynkowanej, trójnawowej, opatrzonej na osi głównej w dwie ośmioboczne wieże, dokonano w 1877 r.”. Цяпер гэта рэктаральны касцёл Wniebowzięcia Najświętszej Maryi Panny. Вікіпедыя: „We wnętrzu budynku zachowała się polichromia stanowiąca w dużej mierze naśladownictwo tej zdobiącej Sobór Chrystusa Zbawiciela w Moskwie. W jednej z wież cerkwi namalowane zostały postacie ewangelistów, poza tym w soborze znajdują się sceny Zwiastowania, Narodzin Chrystusa, Niesienia Krzyża, Chrztu Chrystusa i Zmartwychwstania Łazarza”. Не ўдалося мне гэтага пабачыць, адно толькі з сенцаў відаць было фрэскі евангелістаў у ветразях пад барабанам, што над галоўным нефам храма, падпісаныя стылізаванай на даўні манер лацінкай.

У Ломжы яшчэ адзін сакральны аб'ект, перашчэплены з праваслаўнага ў каталіцкі, гэта могілкавая капліца. Гарадскі партал: „W 1910 r. wybudowano kaplicę neoklasycystyczną pw. Grobu Pańskiego”. Ці гэтае заступніцтва было з самога пачатку — не ўдалося мне даведацца. Наконт могілкавай капліцы на ломжынскіх могілках шмат не супадаючых з сабою інфармацый, напрыклад, у згаданай кнізе „Zapomniane dziedzictwo” ёсць дзве даты яе ўзвядзення: 1902 і 1910. Магчыма, што датычныя яны розных аб'ектаў — у межах ломжынскіх могілак ёсць не толькі нова-класічная капліца, ёсць і невялікая візантыйская дызайну — мабыць таго ж самага архітэктара, што задумаў астралэнцкую царкву — з чырвонай цэглы, ёсць і больш сучаснага дызайну маленькая з ажурнымі металічнымі сценамі, завершаная праваслаўным крыжам. Не дзіва тады, што можна было ў іх крыху разгубіцца.

На старых ломжынскіх могілках ёсць крыху намагільнікаў з кірылічнымі эпітафіямі — яны з царскага часу. У іх ліку і падвойныя эпітафіі — той самы змест на расійскай і польскай мовах. І шмат арыгінальных намагільнікаў. Гарадскі партал: „Ta pochodząca z pierwszych lat XIX wieku nekropolia łączy w sobie trzy cmentarze: rzymskokatolicki, ewangelicko-augsburski i prawosławny. (...) Jest to jeden z najstarszych cmentarzy w Polsce. Powstał około 1801 r., w okresie, kiedy Łomża wchodziła w skład «Rejencji Białostockiej» w Prusach Wschodnich i była pod władzą pruską w latach 1794-1807. (...) Powstał nieco później od Powązek, a wcześniej od Pere-Lachaise. (...) Cały świat podziwia Cmentarz Powązkowsko-Komunalny w Warszawie — najwspanialszy chyba na ziemi. A jednak... Cmentarz Parafialno-Komunalny w Łomży, choć nie kryje prochów Oscara Wilde'a czy Honore de Balzaca ani Reymonta czy Gałczyńskiego, zdumiewa jednak tak niezwykłą rangą wartości artystycznych, że należy postawić go niezbyt daleko za Powązkowskim i paryskimi”. А яна ж, гэтая незвычайная Ломжа, толькі ў васьмідзесяці кіламетрах ад Беластока і — як падавалі даўнейшыя даведнікі — распалажаная на шляху між Пецярбургам і Варшавай.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Колішняя Троіцкая царква ў Ломжы



Адзін з ломжынскіх намагільнікаў

# Парадокс

**Гляджу я на сучасную Еўропу і страшна мне робіцца. Усё пераляшалася, перапляліся, перакрыжавалася ў ёй. І сваю палітыку яна пачала будаваць не на цвёрдым грунце, а на парадоксах нейкіх.**

І так Расія, як бы ёй не хапала сваіх багацейшых зямель, ніяк не хоча адпусціць ад сябе Украіну, а Украіна ніяк не хоча быць з Расіяй. Відаць нацешылася брацкай дружбай з Расіяй і пачала шукаць старэйшага брата ў іншым месцы. Бо ўкраінцы і беларусы без старэйшага брата ані руш. Паміж гэтымі сапраўды брацкімі народамі паявілася прорва, бяздонне, злосць, нянавісць і крывавыя канфлікты, якім канца і краю ўжо не відаць. Ці не парадокс гэта?!.

Украіна хоча стаць членам Еўрасаюза. Але Еўрасаюз не хоча Украіны, бо яна бедная і неўпарадкаваная краіна. А Еўрасаюз любіць толькі багатых і ўпарадкаваных, каб не траціць на новых саюзніках, а зарабіць...

Еўрасаюз не любіць таксама ісламскіх імігрантаў і ўсімі сваімі спосабамі хоча адгарадзіцца ад іх, а тымі, якія ўжо апынуліся ў ёй, падзяліцца з усімі членамі Еўрасаюза. З чым у сваю чаргу не ўсе члены згаджаюцца, і імігранты таксама не згаджаюцца.

І як тут не судзі, але ўсё-такі маем тут дачыненне з вялікай несправядлівасцю, свінствам і грахом з боку ЗША і Еўрасаюза. Аб чым цяпер сам прэзідэнт Дональд Трамп адкрыта гаворыць... Бо эмігранты сталі эмігрантамі, бамжамі не па ўласным хаценні і волі, а зрабілі іх такімі Злучаныя Штаты Амерыкі і Еўрасаюз са сваім НАТА. І тады яны ўсе былі надзіва згодныя з сабой. Ці не парадокс гэта?!.

Ісламскія ж імігранты проста наслілу рвуцца ў Еўрасаюз. Як бы быў ён ім зямлёй абетаванай, але еўрасаюзных парадкаў і еўрасаюзнікаў яны не любяць. Бо хоць Еўрасаюз і багаты, і талерантны, і дэмакратычны, але не ісламскі. Не вельмі ўжо і хрысціянскі. Многія яго жыхары выракліся ці адмовіліся ад свайго хрысціянства — і рэлігійна сталі проста ніякімі. І менавіта гэтая іх рэлігійная абыякавасць дала надзею рэлігійна чуйным ісламістам зрабіць іх мусульманамі. Бо згодна ісламскаму падзелу свету, усе краіны дзеляцца на дзве групы: на ўжо ісламскія краіны і на краіны, у якіх ідзе барацьба за іслам...

Вельмі дзіўна і смешна, што палітыку гэтай ісламізацыі пачалі памагаць праводзіць ім Злучаныя Штаты Амерыкі і Еўрасаюз са сваім НАТА. Спачатку развалілі Югаславію і Сербію, падзяліўшы іх на маленькія краінкі. Стварылі Косава і іншыя ісламскія краінкі на Балканах, адкрыўшы гэтым самым шырока вароты ў Еўропу мусульманскім народам. Засталося толькі нагнаць іх з арабскіх краін у гэтыя вароты.

Балканская авантура была першай перастройкай Еўропы пасля вайны і тэстам на праверку народнай рэакцыі, цярплівасці на такія перамены. Вынік атрымаўся станоўчы — народы не толькі не рэагавалі, але як бы і не заўважылі Балканскай авантуры. Такой масавай і нахабнай была прапаганда «за». Яна цяпер такая, што і пакойнікаў можа пераканаць. Былі, канешне, галасы і супраць, яны даказвалі, што гэтую жабу прыйдзецца Еўропе доўга есці. Былі яны аднак маламікія і ціхія. Ці ж не парадокс гэта?!.

Зрабіўшы «парадак» на Балканах і не напаткаўшы народнага супраціву, амерыканская-еўрасаюзна-НАТАўскі альянс пачаў аптымістычна наводзіць «парадкі» ў Іраку, Афганістане, Лівіі, Сірыі. Пад тымі самымі лозунгамі — нясення дэмакратыі недэмакратычным народам і краінам. А ўслужлівыя СМІ так міладзна стараліся паказваць усю гэтую дэмакратызацыю не як крывавую агрэсію, а проста богаўгодную місію. Ці не парадокс гэта?!.

Прайшло нямала ўжо часу ад пачаткаў згаданай дэмакратызацыі, але яна так і не паявілася ў дэмакратызаваных краінах. Паявіліся адно магілы, хаос, якім таксама канца і краю ўжо не відаць. Каб нейк выжыць народам гэтых краін, прыйшлося пакідаць родныя мясціны і ўцякаць. І яны пабеглі. Суседнія краіны іх не прынялі, бо пэўным сілам яны былі патрэбны менавіта ў Еўрасаюзе, Еўропе. Так паявіліся ісламскія імігранты ў Еўрасаюзе. Частка іх проста ад безвыходнасці, а частка для выканання злой місіі ў нас. Наступіла так бы мовіць адваротная сітуацыя да хітрай задумы альянсу — мы мелі занесці ім сваю дэмакратыю, а яны прынеслі нам свой іслам. Наша дэмакратыя ніяк не захацела прыжыцца там, толькі разгневала іх. А іх іслам зусім добра дае рады ў нас: лёгка прыжываецца, укараняецца і пашыраецца. Як грыбы пасля дажджу растуць усё новыя мячэці і знікаюць з краявіду нашы хрысціянскія храмы, як бы пераcталі яны быць нам патрэбныя. У такой Англіі напрыклад — чытаю я — налічваецца ўжо больш тысячы мячэцей і будуюцца наступныя. Падобна і ў іншых краінах Заходняй Еўропы. І такая тэндэнцыя пашыраецца на ўвесь Еўрасаюз і Еўропу. Ці ж гэта не парадокс?!.

Значыць, пачынае збывацца даўно знанае ў нас прароцтва, паводле якога Еўропу маюць насяліць мусульманскія народы — і Еўропа ўжо ніколі не будзе такой, як была. Быць можа што гэта і ёсць пачатак гэтага насялення.

Ёсць яшчэ адно прароцтва на гэтую тэму, універсальнае, біблейскае: «Якім судом вы судзіце, такім і вас судзіць будуць. Якой меркай вы мераеце, такой і вам адмераюць...».

І наша народная мудрасць: «Чым бароліся, на тое і самі напароліся..».

Значыць, як тут ні круці, а адказваць і за Балканскую авантуру, і за Ірак, Афганістан, Лівію і Сірыю прыйдзецца. За бежанства мусульманскіх народаў, якое заліло і надалей залівае ўсю Еўропу, ды трагічна гіне на бежанскіх дарогах, таксама адпавядаць трэба... А вінаватымі за ўсю гэтую Галгофу з'яўляюцца Злучаныя Штаты Амерыкі і ўрады ўсіх краін Еўрасаюза, бо гэта ж яны далі згоду на гэтую агрэсію і самі літаральна ўдзельнічалі ў ёй. За гэты грэх мы ўсе ўжо плацім і яшчэ доўга плаціць будзем, плаціць поўнай меркай. Інакш кажучы — «жабу есці...».

**Васіль САКОЎСКІ**

## https://sbpmah.wixsite.com/sbp-mahilou

Пачынаючы ад сакавіка 2017 года прысутнасць беларускіх пісьменнікаў у Сусветным павуцінні павялічылася. Прычым павялічылася адразу амаль на два дзясяткі асоб, якія ўваходзяць у Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ад гэтага месяца ў інтэрнэце пачаў функцыянаваць сайт гэтай суполкі, які цяпер месціцца па адрасе https://sbpmah.wixsite.com/sbp-mahilou.

Першым пра даны сайт паведаміў „гораду і свету" старшыня суполкі Мікола Яцкоў на сваёй старонцы ў Facebook. „Пачаў працаваць над сайтам Магілёўскай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Спадзяюся, што з цягам часу там усё будзе добра — інфарматыўна, насычана, цікава", — напісаў ён 16 сакавіка.

Калі зазірнуць на сайт, то, сапраўды, перспектывы ў яго праглядаюцца даволі неблагія, нягледзячы на тое, што працы ён яшчэ патрабуе шмат. На галоўнай старонцы, першае, што перашкаджае добраму ўспрыняццю, гэта тое, што сайт неадфарматаваны — выяўленню не хапае гарызантальнай даўжыні экрана. З-за гэтага карыстальнік будзе вымушаны рухаць мышкай унізе карцінкі, каб пабачыць, што знаходзіцца па баках.

Усе выйсці на рубрыкі месяцца ўверсе цэлага выяўлення. На галоўнай знаходзяцца анонсы артыкулаў і розных паведамленняў. Практычна ўсе яны аздоблены фотаздымкамі, і найбольшую ўвагу прыцягвае тызер, на якім можна пабачыць разнастайныя выявы знакамітых месцаў і будынкаў Магілёўшчыны.

Другой у пераліку ідзе рубрыка „Гісторыя". Пэўна, уладальнікі сайта збіраюцца напісаць нейкі расповед пра з'яўленне і станаўленне пісьменніцкай арганізацыі ў рэгіёне. Аднак пакуль ніякай інфармацыі там няма, што папраўдзе даравальна, бо данаму сайту яшчэ няма і месяца ад моманту з'яўлення.

Затое ў „Нашай суполцы" ўжо кожны можа ўбачыць усіх уваходзячых туды магілёўскіх пісьменнікаў. Праўда, нейкага жыццяпісу ці расповеду аб творчасці пакуль няма ні для аднаго з іх, нават для старшыні. Верагодна, з'яўленне біяграфічных даных паспрыяе большай колькасці візітаў на даны сайт, бо дасць магчымасць віртуальна пазнаёміцца з магілёўскімі аматарамі пяра.

Ідучая далей рубрыка „Навіны і падзеі" ўжо напоўнена інфармацыяй настолькі, што дазваляе ўпэўніцца ў тым, што суполка жывеі дзейнічае. Так, першае паведамленне тычыцца прайшоўшай справаздачна-выбарчай канферэнцыі арганізацыі, дзе ў выніку галасавання Мікола Яцкоў быў пераабраны на новы тэрмін, а яго намеснікамі сталі Міхась Булавацкі ды Сяргей Украінка.

Адназначна станоўчым бачыцца размяшчэнне ў рубрыцы „Нашы выданні" ў фармаце pdf двух выданняў, што выходзілі пад эгідай магілёўскіх літаратараў. Гэта бюлетэнь „Дняпроўская строма", што выдаваўся з мая 2012 года па ліпень 2013 год, і літаратурна-мастацкі альманах „Брама", першы нумар якога датуецца 2013 годам.

Пэўна, своеасаблівым гонарам пісьменніцкай суполкі Магілёўшчыны будзе рубрыка бібліятэка, дзе, праўдападобна, размесціцца электронныя версіі кніжак, датычных мясцовых літаратараў. Аднак зараз яна пустая, таксама як і „Кантакты і сувязі". Але пры жаданні ў самым нізе выяўлення можна пабачыць нумар тэлефона, адрас электроннай пошты і абаненцкую скрыню, што належаць пісьменнікам.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

### Газета, якая пакінула яркі след

# 25 гадоў з дня выдання газеты «Пагоня»

ПАГОНЯ Дзень Волі-2000 у Гародні

Першы нумар гарадзенскай газеты „Пагоня" выйшаў прымеркавана да Дня Волі — 25 сакавіка 1992 г. Першым рэдактарам быў Сяргей Астраўцоў. З 1993 г. газета пачала выходзіць рэгулярна па пятніцах з падназвай „Рэгіянальны агляд: Беласток — Гародня — Вільня". З лістапада 1993 г. новым галоўным рэдактарам „Пагоні" стаў Мікола Маркевіч, журналіст і дэпутат ВС ХІІ склікання ад БНФ.

У час першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. „Пагоня" актыўна падтрымлівала Зянона Пазьняка і востра крытыкавала Лукашэнку. Першая і, хіба адзіная, з беларускіх газет змясціла без белых плям антыкарупцыйны даклад тагачаснага дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Антончыка. Наклад выдання вырас да 10 тысяч асобнікаў. Газета друкавала ананімны працяг паэмы „Лука Мудзішчаў" і вытрымкі са скандальнага інтэрв'ю Лукашэнкі нямецкай газеце „Гандэльсблат", у якім ён пахваліў Гітлера.

Улетку 1996 г. наклад газеты дасягнуў 14 тысяч асобнікаў. З падзагалоўка „заходнебеларуская грамадска-палітычная газета" было выключана першае слова. З лета 1997 г. газета выходзіла два разы на тыдзень. З 1998 г. выдаваўся дадатак „Маю Права". З лета 1999 г. „Пагоня" зноў пачала выдавацца раз на тыдзень, наклад знізіўся да 7 тысяч асобнікаў. Газета друкавала артыкулы на палітычныя і грамадска-сацыяльныя тэмы, асвятляла гаспадарку, культурнае, канфесійнае, спартовае жыццё рэгіёна. Значная частка газетнай плошчы аддавалася гістарычнай праблематыцы, краязнаўчым допісам, мемуарам-успамінам дзеячаў беларускага руху розных часоў. Сталымі рубрыкамі былі „Грамадства", „Палітычная сцэна", „Сумежжа" (газета ўпершыню рэгулярна знаёміла гарадзенцаў з жыццём і дзейнасцю беларусаў Беласточчыны), „Вайна і людзі", „Лёсы", „Наш каляндар". Асобнае месца займалі надзвычай папулярныя, вострыя палітычныя карыкатуры Алеся Суровага, некаторыя сюжэты прыдумвалі і журналісты. Трэба заўважыць, што нягледзячы на выразны рэгіяналізм, „Пагоня" распаўсюджвалася па ўсёй Беларусі. У газеце стала друкаваліся такія журналісты і публіцысты як Зміцер Кісель, Міхаіл Карневіч, Георг Астроўскі, Юры Гумянюк, Віктар Руднік, Сяргей Сноп, Станіслаў Суднік, Сяргей Чыгрын, Алена Сіневіч, дзевяць гадоў пашчасціла друкавацца ў „Пагоні" і аўтару гэтых радкоў. Потым прыйшла маладая змена — Павал Мажэйка, Андрэй Мялешка, Юлія Дарашкевіч, Юлія Коцкая...

Рэдакцыя „Пагоні" месцілася па двух асноўных адрасах, якія адпавядалі двум перыядам выдання. Спаленне адбывалася ў будынку па вуліцы Дамініканскай (цяперашні дом па вуліцы Савецкая, 10). Тут суседнічалі і многія іншыя беларускія арганізацыі — „Бацькаўшчына", БНФ „Адраджэньне", ТБМ... Потым доўгі час рэдакцыя працавала ў будынку па вуліцы Брыгідскай (Карла Маркса, 11). Зараз у абодвух гэтых дамах размясціліся розныя гандлёвыя крамы, якія наставарала мясцовая наменклатура. Хоць, калі адбывалася апошняе высяленне „Пагоні", гаварылася пра аварыйны і катастрафічны стан будынка.

12 лістапада 2001 г. газета спыніла існаванне згодна рашэнню суддзі Вышэйшага гаспадарчага суда РБ Валерыя Жандарава. Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч і журналіст газеты Павал Мажэйка былі засуджаны за „паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з абвінавачаннем яго ў здзяйсненні асабліва цяжкіх злачынстваў".

Газета „Пагоня" засталася легендарнай газетай найноўшай беларускай гісторыі, выданнем, якое пакінула глыбокі след у сэрцах многіх журналістаў, уплывала на светапогляд тысяч чытачоў.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




ЗАПРАШАЕМ



**Запрашаем на канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча**
23.03.2017 (чацвер)
$20^{00}$ Кафэ „Zmiana Klimatu”
вул. Варшаўская, 6.

Дзень Волі
25
сакавіка
1918-2017
**ЗАПРАШАЕМ**
**на святкаванні ў Беластоку**
**25.03.2017 (субота)**
**$15^{00}$ Кафэ „Zmiana Klimatu”**
**вул. Варшаўская, 6.**

**У праграме м.інш: даклад прафесара Алега Латышонка і прэзентацыя кніжкі «Гісторыя беларусаў Падляшша» і дакументальнага кіно.**

**Запрашаюць:**
**Радыё Рацыя,«Ніва», Беларускі саюз, Беларускае гістарычнае таварыства, АБ-БА, БАС.**



## ЗАПРАШЭННЕ

Аб’яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на
Дыскусійны клуб АБ-БЫ

**“Пагаворым пра паэзію і Айчыну”**

і сустрэчу з **Андрэем СЦЕПАНЮКОМ** – дырэктарам Беларускага ліцэя ў Бельску, аўтарам кнігі паэзіі **«Распісаны квадрат»**.
Бонус вечарыны: выступ гурта **Баламуты**
24.03.2017 (пятніца) 17.00
Склеп з культурай Аб’яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.



## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. змяя, ліхі, каварны чалавек = 8 _ 11 _ 28 _ 5 _ 6 _ 7 _;
2. гарэлка прыпраўленая ядлоўцавымі ягадамі = 29 _ 30 _ 31 _ 35 _;
3. будынак для жылля = 26 _ 27 _ 14 _;
4. адзінка сілы = 17 _ 18 _ 16 _ 15 _;
5. каларадскі або майскі сябра божай кароўкі = 21 _ 20 _ 19 _;
6. плёнмае поле = 22 _ 23 _ 24 _ 25 _;
7. зброя пікадора = 33 _ 9 _ 32 _ 34 _;
8. астатак у дошцы ад зрэзанага бакавога ствала ў... барсука = 4 _ 3 _ 10 _;
9. жыхар цэнтральнай часткі Сібіры = 1 _ 2 _ 13 _ 12 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | | 3 |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | 17 | 18 | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Дзень, Буг, ядро, люлька, Мідас, столь, готыка, вол, дылема, Лоеў, куратнік, валет.

Рашэнне: **Які снег у лютым, столькі вады ўлетку**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 26.03 — 01.04

**(22.03. — 20.04.)** 25-27.03. натхняльныя знаёмствы. 28-30.03. зразумееш, што маеш рабіць. Краса і харызма. Магчымая крызісная сітуацыя ў фірме ці на рынку працы, чакаюць цябе нялёгкія рашэнні. Добрыя інфармацыі пра фінансы, не пашкадуеш сабе прыемнасцей, але ж маеш за што, дык няма чаго сабе шкадаваць. Спрацуе дыета-цуд ці добры крэм. Жанчыны няхай зойдуць да лекара.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш шмат. У пачуццях дай яшчэ адзін шанц. Калі маеш дзяцей, не трымай іх на павадку, дазволь жыць ім па-свойму, а калі хочуць пакінуць гняздо — няхай ляцяць, дадуць сабе рады. На працы задбай аб празрыстыя правілы і добрую камунікацыю, і з шэфам, і з супрацоўнікамі. Адпачывай, высыпайся, дачытай кнігі, шпацыруй, змяні каву на мінералку.

**(22.05. — 22.06.)** Не сумнявайся. Удала паафармляй справы ва ўстановах. Сінглы разварушацца — паявіцца хтосьці ўражваючы, на фантазіях не кончыцца. Не бойся за блізкіх, усё ў іх будзе ў парадку, займіся сваімі справамі. На працы пільнуйся, лішне не расслабляйся. Можаш знайсці дадатковы прыбытак. Прыслухайся да свайго арганізма, прааналізуй свой спосаб жыцця, змяні навыкі, і нямогласці кончацца.

**(23.06. — 23.07.)** Магло б быць лепш, але не будзе блага; нічога не прыспешвай. Някепская форма. У пары варта паразмаўляць, ратаваць важнае і сардэчнае. На рабоце ўдакладні свае мэты і рабі сваё, не азірайся. 28.03. атрымаеш шанц, каб паказацца пры кіраванні важным праектам; добра папрацуй, бо такі шанц можа не паўтарыцца. Узгадоўвай у сабе пазітыўнае стаўленне. Цешся дробнымі прыемнасцямі. Апранайся цёпла.

**(24.07. — 23.08.)** Адновіш старыя сяброўствы і кантакты. Твае прыёмы будуць трапныя і прынясуць канкрэтныя карысці. Варта запланаваць нейкую супольную рамантычную паездку, можа, шлюб, старанне за дзіцятка; зоркі вам спрыяюць. Шыкуецца імпрэза, файная паездка, не праваронь. Шанц вельмі прыбытковых заняткаў атрымаеш пасля 28.03., файная, менш фармальная атмасфера на працы. Кашалёк поўны, але ў краму хадзі з малым кошыкам.

**(24.08. — 23.09.)** Шчаслівыя выпадкі. Але непагаслыя канфлікты могуць тлецца. Старайся не крытыкаваць. 28-30.03. вельмі спрыяльныя акалічнасці. Можаш знайсці пастаянную працу (асабліва калі нарадзіўся ты ў трэцяй дэкадзе). Грошы будуць, толькі што трэба будзе заплаціць нейкія рахункі ці падаткі. Пацікаўся натуральнымі метадамі лячэння, асабліва зёлкамі.

**(24.09. — 23.10.)** Дзейнічай спакойна. 26-27.03. вельмі ўдалыя паездкі. Хаця 26-28.03. блізкія могуць збунтавацца супраць тваіх планаў. 26-27.03. можаш закахацца з першага пагляду. Могуць псавацца прылады, паможа табе паладзіць іх хтосьці са сваякоў. Будзеш мець шчасце да грошай, якія прыйдуць самі (магчымы выйгрыш). Дыхай на поўныя грудзі.

**(24.10. — 22.11.)** Справішся з розным выклікамі. Настрой някепскі. Дбай аб адносіны з каханай асобай, сарганізуй рамантычную вячэру... Дагаворышся са сваякамі, з якімі даўно вы «дзерлі катоў». На працы можа быць нейкі крызіс, другі бок можа адмовіцца ад планаў, могуць быць складанасці ў фармальнасцях. Пільнуйся ад страт, добра зачыняй дзверы, трымай на воку кашалёк. Перамажы ляноту, займіся фізкультурай, неўзабаве вынікі будуць відныя. Еж вячэру найпазней на 3 гадзіны да сну.

**(23.11. — 22.12.)** Удачы, нагоды для карысных змен. У пачуццях рэагуй на сігналы. Не кіруйся поглядамі асяроддзя, толькі сваім сэрцам. Магчымае далёкае падарожжа. Грошы будуць, але інвестуй іх з толкам. Выходзь на сонейка, вучыся танцаваць. 28-30.03. правядзі адкладваную размову — будзе добра!

**(23.12. — 20.01.)** Сустракайся з мілымі табе людзьмі, а таксама з рэальнымі (вядомымі з сеціва). Адкрыюцца шырока новыя гарызонты. Хоць крыху змяні гардэроб, заўсміхаешся, глянуўшы ў люстэрка. Не шкадуй прытуляцца. Больш чым праца для грошай захопіць цябе праца для ідэі; будзеш мець столькі, што нават падзелішся. Прысвячай час целу. Пасляаперацыйныя раны могуць зажываць даўжэй.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш зарабіць больш, добраўпарадкаваць сваё атачэнне. 25-27.03. разварушыш партнёра. 28.03. цікавыя весткі. Можаш запрасіць у жыццё сімпатычную асобу. Фартуна пры табе, чакае цябе новая пасада, Вадалей з другой дэкады можа стаць сваім шэфам. Не выдавай грошай без толку. Варушыся, танцуй, бегай.

**(20.02. — 21.03.)** Твой спакой неацэнны. 25-29.03. будзеш поўны сілы і самаўпэўненасці. Добрая форма. Не бойся загаварыць да чужых. Варта давучвацца, з’ездзіць на нейкія курсы. Ашчаджай, купляй на базары, будзеш багацейшы і здаравейшы. Варушыся, намаўляй да фіззарадкі блізкіх, але звяртай увагу на капрызы надвор’я, не прастудзіся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (78)

Сцяпан Адамавіч Аласюк як ніхто пранік тайны роднага Палесся. Калі бярэ слова, усе навокал ціхнуць, чакаюць, што скажа. А ён, былы настаўнік гісторыі, ужо з першага сказа прыкоўвае ўсю ўвагу, будзіць цікавасць.

— Я такі, задрыпаны, паляшук, — кажа пра сябе, — вырас сярод вужоў і гадзюк, на хутары, сярод дзікай прыроды...

Мала хто з яго суродзічаў дазволіць сабе на такі крытычны, свойскі пачатак. Сустракаемся ў цэнтры Любашова, у сядзібе Прыпяцкага парку. Двяццаць хвілін раней пазваніў яму Віталь Верамчук з парку і запрасіў на размову.

— У нас госця, яна цікавіцца вашымі вікінгамі, — сказаў Віталь.

Сцяпан Аласюк адразу кінуў працу ў агародзе, сеў на ровар і праз некалькі хвілін быў ужо на месцы. Усе яго доследы пра варагаў пакуль любашоўцы ўспрымаюць з недаверам, хоць бачаць у гэтым здаровы сэнс. Узяць хоць бы такі Любашоў. Ніхто не ведае адкуль пайшоў назоў горада. Праўда, паводле афіцыйнай легенды выводзяць яе ад сялянкі Любы, у якую закахаўся польскі пан. Той пан, часта ўцякаў з двара і тады адны служкі пыталі: — *А дзе ж наш пан?* На гэта другія служкі адказвалі: — *Пайшоў да Любы!* Якраз ад гукаў гэтых слоў, на перастаўленых ад заду да пераду, нібыта і пайшоў Любашоў.

— Гэты горад пачалі называць Любашоў толькі пасля 1939 года, — кажа Сцяпан Аласюк. — Раней пры паляках існаваў як *Любешув*, аднак у народзе, ажно па канец ХІХ ст., казалі *Лэбэшов*. У яго аснову лягло імя Лэбэш, якога няма ва Украіне. Гэта скандынаўскае імя. Відавочна вікінгі збудавалі тут, на высокім берагу Стахода стаянку, ды назвалі яе ў гонар свайго галоўнага ваяра, — выводзіць настаўнік.

Легенда пра „Любу і пана” нікне ў канфрантацыі з мясцовым этнасам. Да 1939 года Любашоў насялялі яўрэі (за 70 адсоткаў) і палякі (за 20 адсоткаў), а мясцовых было тут як на лякарства, некалькі адсоткаў...

* * *

— Сляды вікінгаў найбольш відавочныя над Прыпяццю, — прадаўжае Сцяпан Аласюк, — таму захаваліся ўрочышчы *Лэбэтово* і *Гэлен*. Далей, калі ісці па рацэ, з плынню, там будуць *Нобэль* і *Нівель*. Усе гэтыя месцы ўзялі свой назоў ад скандынаўскіх ці нарманскіх імён. Ці гэта былі пасёлкі, гарады ці проста стаянкі, дзе вікінгі адпачывалі і ладзілі лодкі, папаўнялі запас яды? Цяжка сказаць. Ніхто не даследаваў гэтага матыву, няма таксама запісаў у хроніках, летапісах, рунах. Аднак, увесь час на берагах рэк людзі знаходзяць манеты, выбітыя ў Скандынавіі. І яны пазначаны на XIV-XV стагоддзі. У школьным музеі ёсць нават манета з 1524 года. Пра што гэта сведчыць? Пра тое, што скандынавы карысталіся шляхам па Прыпяці яшчэ доўга-доўга пасля эпохі вікінгаў...

Якраз была нагода, каб спытаць пра Ольбле — Ільбле ля Каменя-Каширскага. Гэтыя вёскі (сёння перайменаваныя на Грудкі і Асіўцы) туземцы па сённяшні дзень называюць *Лэбскай землёй*. Мясцовыя актывісткі і спявачкі з Дома культуры сваім выглядам напаміналі датчанак, а адна з іх займалася рыбалкай. Апошняя рэчь узбуджала сенсацыю. Для палешукоў рыбалка — выключна мужчынскі занятак. Ёсць нават павер'е, што ў ноч перад рыбалкай мужчына павінен захаваць сексуальную стрыманасць. А раніцай, калі не дай Бог у дарозе на возера ён убачыць жанчыну, абавязкова трэба вярнуцца дамоў. Такая сустрэча прарочыць паразу ў лоўлі па поўнай праграме.

— Я з вамі згодны, — кажа Сцяпан Аласюк, — варагі кантралявалі не толькі шлях па Прыпяці, але і ўсе яе прытокі з поўдня: Стаход, Цыр, Тур'ю... Спачатку, пакуль не знайшлі дарогі, яны шукалі карацейшага шляху ў Царагpад. У той час, калі не было прасторавага ўяўлення і картаў, здавалася што кожны паварот на поўдзень можа хоць крыху наблізіць у Візантыю. І яны паварталі ў прытокі і плылі ажно да крыніц...



Ніхто раней да вікінгаў не рухаўся з такой лёгкасцю пад плынь ракі. Праблему ў многім вырашала новая мадэль лодкі, а таксама неўтаймаваная прага адкрыцця новых шляхоў і заваёваў. Часам асвоеныя гарады і новыя стаянкі насялялі асаднікамі са Скандынавіі. Камень-Каширскі, сярэдневяковы палітычна-гандлёвы цэнтр, распаложаны на рацэ Цыр, патрабаваў вікінгаў. Яны служылі дружыннікамі на замку ў князя. Спецыяльна дзеля іх былі заснаваныя на супрацьлеглых берагах возера аднайменныя сёлы Ольбле — Ільбле (па-дацку: яблык). На месцы я пачула легенду пра затопленую ў возеры царкву.

* * *

Сцяпан Аласюк прапанаваў яшчэ паназіраць за выглядам прыпрыпяцкіх палешукоў. На першы погляд яны нічым не адрозніваліся ад жыхароў Падляшша. Але ў паходцы адчувалася нейкая лоўкасць, спрыт. Цяжка таксама было зглядзець таўстуноў, разлезлых тэльбухаў. Усе дзеці здаваліся белабрысымі бландзінамі.

— У нас многа рыжых і светлавалосых з сінімі вачыма, — кажа Сцяпан Аласюк, — і менш чым ва Украіне чорнавалосых і цёмнавокіх. Гэта паказвае, што мы не прыйшлі са стэпаў, а толькі з поўначы Еўропы.

Мой субяседнік успамінае яшчэ незвычайную мабільнасць мясцовых хлапцоў.

— Зараз, калі няма ў краіне заработкаў, яны раз'ехаліся па ўсім свеце. Здаецца, няма такога астраўка на Ціхім акіяне, каб там не наткнуцца на любашоўца. Мабыць і гэтая рыса дасталася нам па вікінгах!

Праўда, шмат неславянскіх прыкмет можна вылучыць па мове.

— Мы, палешукі, больш паходзім ад яцвягаў, — робіць агаворку Сцяпан Аласюк, — яны былі перасяленыя на Прыпяць з памежжаў Польшчы, Беларусі і Літвы Данілам Галіцкім. Іх уплыў відавочны па сённяшні дзень у мове. Вось у прыпрыпяцкіх гаворках няма літары *я*, старыя па сённяшні дзень кажуць пра сябе *е* (*е пішоў до лісу*). Таксама дзеясловы маюць характэрны канчатак *-со*: *е напрацоваўсо, е напрацовалaсо*...

Таксама яцвяжскім моўным рэліктам мой субяседнік лічыць слова *молож'ей*, гэтак над Прыпяццю называюць другі пакос сена, атаву.

Жыхары прыпрыпяцкага Палесся да нядаўна лічыліся самым кансерватыўным і закрытым насельніцтвам Еўропы. Ідэя дзяржавы і нацыі часта зводзілася да роднага сяла. Ідэя іх радзімы змяшчаецца ў слове „дома”. Дома — гэта адначасова хата, роднае сяло, лес, рэчка, балота, словам усё тое, што прыналежыць зоне сяла.

Берычы пад увагу крайні сепаратызм тузeмцаў, Сцяпан Аласюк не ўмеў паясніць таго феномена як у рэшце рэшт змяшаліся з сабой славяне, варагі і яцвягі. У XIX стагоддзі ўсе лічылі сябе туземцамі, а на пытанне пра нацыянальную прыналежнасць заяўлялі:

— *Я праваслаўны, а не турак!*

* * *

Мне аднак хацелася звярнуцца да сівых, таемных вякоў, таму спытала ў Сцяпана Адамавіча пра дахрысціянскія павер'і. Мой субяседнік дэталёва пранік гэтую тэму. Пачаў з памінальнага абраду:

— У час вайны прыйшлі сюды вугорцы і частка іх салдат загінула. Іх пахавалі і паставілі на магілах бярозавыя крыжы. То нашы людзі не разумелі: як гэта магчыма?! У нас па пакойніку ставяць дубовы крыж. І гэты звычай захаваўся па сённяшні дзень, — апавядае Сцяпан Аласюк. — Ён з тых часоў, калі нашы продкі пакланяліся дубам. Яны палілі целы памерлых, а пасля ішлі на капішча, дзе раслі дубы і хавалі прах пад каранямі дуба.

Мой субяседнік, як сам шмат разоў адзначыў, нарадзіўся за Прыпяццю (з перспектывы Любашова па левым, „беларускім” баку ракі) у ляшчынавым урочышчы *Сэлісок*. Яго бабуля, народная лекарка, дапамагала лекаваць хворых на эпілепсію дзяцей. Сілу і моц дарыла прырода. Яна была настаўніцай жыцця, свойскім універсітэтам, амбулаторыяй і лякарняй. Дзед выходзіў раніцай на панадворак і гаварыў, якое будзе надвор'е. Або глядзеў на сонца і ведаў якая гадзіна.

— Мы, палешукі, колішнія паклоннікі бога Сонца, — кажа настаўнік. — Яшчэ сёння франтоны дамоў у нас аздабляюць выявай сонца. Як калісь будавалі хату, як правіла, сцераглі, каб *покуць*, той святы кут з іконамі, быў накіраваны на поўдзень. Як добрыя хрысціяне палешукі глядзелі на сонца і прасілі дапамогі. А як хто абрыд, раззлаваў, кідалі ў яго бок праклён: *Коб тэбэ пэрун ударыў!*

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960